*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
13
ВЕРАСНЯ
1991 г.
№ 37 (3603)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—16 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## НАШ «СЛАВУТЫ» ЗЯМЛЯК

**Васіль ХОМЧАНКА: «Фелікс Дзяржынскі быў адным з самых лютых паплечнікаў Леніна. Ён не ведаў, што такое міласэрнасць, спагада, гуманнасць. У яго не дрыжала рука, калі падпісваў спісы на расстрэл, не дрыжаў голас, калі даваў вусныя загады на расстрэл. І гэта столькі гадоў у нас ухвалялася, славілася...»**

СТАРОНКІ 5, 12.

## ЧАРГОВЫ. ЗВЫКЛЫ. НЕАБХОДНЫ?

**Пра «Дзень паэзіі-1990».**

СТАРОНКІ 6, 7.

## «...ВА ЙМЯ СВЯТОГА ЎСІМ НАМ АДРАДЖЭННЯ»

**Збор твораў Максіма Гарэцкага — том пяты, незапланаваны.**

СТАРОНКА 7.

## СПАГАДА, ДАЛІКАТНАСЦЬ, ДАБРЫНЯ

**Гутарка з кіраўніком Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Мадэстам Абрамавым.**

СТАРОНКА 10.

## ХТО Ж ЁН, СЯДУРА-ГЛЫБІННЫ?

**Сяргей ГРАХОЎСКІ: згадкі пра 30-я гады.**

СТАРОНКА 12.

## ВЯРХІ І НІЗЫ

**Нататкі Барыса САЧАНКІ пра сустрэчы з К. Т. Мазуравым, П. М. Машэравым, Ц. Я. Кісялёвым.**

СТАРОНКІ 14, 15.

## «НАША РАДА»

**Так будзе называцца новая лімаўская рубрыка, адкрыць якую мы вырашылі таму, што пастаянна адчуваем неабходнасць у трывалым канале аператыўнай сувязі з вамі, шаноўныя чытачы. Склікаць «Нашу раду» мы мяркуем па тэлефоне і штотыдзень выносіць «на парадак дня» адно з найбольш актуальных пытанняў грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі.**

**Такім чынам, сёння 13 верасня, а таксама ў панядзелак і аўторак, 16-га і 17-га, з 13 да 17 гадзін па тэлефоне 33-19-85 супрацоўнікі аддзела пісьмаў і грамадскай думкі «ЛіМа» будуць чакаць ад вас адказаў на пытанне:**

**Якія першачарговыя крокі трэба, на вашу думку, зрабіць для ўсталявання сапраўднага дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі!**

**Спадзяёмся на актыўнае супрацоўніцтва.**



ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЯК НАМ ЗВАЦЬ СВАЮ РЭСПУБЛІКУ?

**Я прапаную вярнуць нашай зямлі назву БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА. А таксама — зацвердзіць новы герб, гімн, сцяг і перайменаваць найвышэйшы орган улады (што, дарэчы, стане прадметам абгаварэння на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР). Усяго гэтага патрабуе павага да гісторыі народа — той гісторыі, якую ворагі беларушчыны, пачынаючы з першых паслякастрычніцкіх месяцаў, чарнілі, ганьбілі, бэсцілі, аплёўвалі, апаганьвалі на ўсе лады.**

### I

Яшчэ ў верасні 1918 года Вільгельм Кнорын пісаў: «Белорусское движение — это воскресающий в уродливых формах социал-шовинизм, с которым мы так долго ведем борьбу. Он опасен именно потому, что приходит под дружественной маской и распространяется органами Советской власти — национальными комиссариатами.

С социал-шовинизмом мы должны вести борьбу, даже если он выступает под советским флагом» (Кнорин В. Г. Избранные статьи и речи. — Минск, 1990, с. 30).

Нагадаць гэтае выказванне вельмі не пашкодзіць таму, што і сам аўтар і ягоныя кампаньёны на працягу ўсяго перыяду грамадзянскай вайны кіраваліся такімі ўяўленнямі, нягледзячы на тое, што з тактычных меркаванняў нават згадзіліся на ўтварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі (ССРБ).

У час грамадзянскай вайны на беларускай зямлі былі абвешчаны дзве рэспублікі з кардынальна адрознымі і адметнымі сацыяльна-палітычнымі сістэмамі: 9 сакавіка 1918 года — Беларуская Народная Рэспубліка (закон аб яе дзяржаўнай незалежнасці быў абнародаваны 25 сакавіка 1918 года), а 1 студзеня 1919 года — ССРБ. Былі прадвызначаны два магчымыя шляхі развіцця колішняга Паўночна-Заходняга краю, які абудзіўся да свядомага палітычнага жыцця.

Сёння мы маем магчымасць параўнаць дзве дзяржаўныя праграмы і даць ім адпаведную ацэнку з улікам усяго гістарычнага вопыту.

БНР упершыню ў гісторыі народа заканадаўча зацвердзіла роўныя правы для ўсіх жыхароў Беларусі, незалежна ад іх сацыяльнага становішча, нацыянальнага паходжання, веравызнання. Галоўным прынцыпам дзяржаўнага ладу станавілася народаўладдзе.

А што зрабілі бальшавіцкія кіраўнікі так званай Заходняй вобласці? Абвясціўшы 1 студзеня 1919 года ССРБ і ўтварыўшы першы беларускі савецкі ўрад на чале з Жылуновічам, яны праз месяц разагналі гэты ўрад, які спрабаваў займацца вырашэннем беларускіх нацыянальных праблем. Савецкая Беларусь была ліквідавана: частку яе аддалі РСФСР, а Мінскую і Гродзенскую губерні — Літве, утварыўшы так званую Літоўска-Беларускую ССР (Літбел) са сталіцай у Вільні. У кіраўніцтве Літбела не аказалася ніводнага беларуса. Пра ўсё гэта я пісаў у свой час і паўтарацца не буду.

У 1919 годзе бальшавікі ўжо ставілі пытанне аб далучэнні ўсіх беларускіх тэрыторый да РСФСР.

Мабыць, сёння ніхто не стане аспрэчваць, што дзяржаўны лад, устаноўлены на беларускай зямлі Мясніковым, Кнорыным, Ландарам і ўсёй іх кампаніяй, быў **антынацыянальным.** Але гэты лад быў таксама **антыдэмакратычным** і **антысавецкім.** А той, хто не паверыць мне, хай пачытае даклад Кнорына на I з'ездзе КП(б)Б аб дзейнасці АК (абласнога камітэта РКП (б). Нагадаю, што даклады бальшавіцкіх кіраўнікоў на партыйных форумах заўсёды набывалі сілу афіцыйных законаў, якімі абавязаны былі кіравацца ўсе партыйныя арганізацыі, усе дзяржаўныя органы. Дык вось у дакладзе было сказана вельмі выразна: «Нам неуместно говорить про демократизм в партийных организациях, ибо демократизм может нас совратить с правого пути. Нам необходима концентрация всей революционной партийной власти в руках ее лучших стратегов.

От этого — безграничная власть, полная диктатура Центрального Комитета во всероссийском масштабе и такая же диктатура на местах областных комитетов, которые должны составляться из лучших стратегов, теоретиков партии, одним словом, из марксистов, партийных старых профессионалов.

При такой постановке Советы являются практическим органом государственной власти, имеющим чисто хозяйственно-административные функции и исполняющим предначертания партии, проводящим в жизнь тактическую линию партии.

Следовательно, Облискомзап (Областной комитет Западной области. — **У. К.**) — орган технически исполняющий. ОК (Областной комитет. — **У. К.**) — орган руководящий, орган диктатуры партийной теории над советской практикой» (с. 35—36).

Тут ёсць над чым задумацца. Саветы, як органы ўлады, павінны былі б выяўляць інтарэсы і **волю** рабочых, бяднейшага сялянства і чырвонаармейцаў. Як тут не нагадаць, што ў

(Працяг на стар. 4).

# «З ВАМІ МОЖНА МЕЦЬ СПРАВУ»

***Такое ўражанне склалася ў германскага* евангельскага місіянера Хайнца Мюлера, які разам са сваімі калегамі-місіянерамі наведаў нашу рэспубліку напрыканцы жніўня, якраз пад час напружаных палітычных падзей у краіне. Здавалася б, «мода» на дабрачынную дапамогу народам Савецкага Саюза на Захадзе праходзіць. Але пратэстанцкая Германія не *толькі не перапыняе сувязі з нашай краінай,* але і пашырае свае кантакты з разнастайнымі дабрачыннымі арганізацыямі і ўстановамі на тэрыторыі рэспублік. Што кіруе заходнімі прадпрымальнікамі? На гэтыя і іншыя пытанні наш карэспандэнт папрасіў адказаць місіянера Х. МЮЛЕРА.**

— Я вельмі ўдзячны вашай газеце за ўвагу да нашага візіту. Мы, прадстаўнікі АЛЬЯНС-МІСІІ —саюза свабодных евангельскіх хрысціян горада Эвербаха, упершыню ў Савецкім Саюзе. І невыпадкова наш першы візіт — на Беларусь. Нас запрасіла кіраўніцтва Мінскай царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў прыехаць на гэтую шматпакутную зямлю, пазнаёміцца з сітуацыяй, выклікаĭ чарнобыльскай праблемай, паназіраць, наколькі гэта атрымаецца, за рэлігійным жыццём, увогуле атрымаць ўражанне ад горада і людзей.

**— І вось ужо амаль тыдзень вы ў Мінску, прычым у дні гарачых палітычных падзей. Што вы адзначылі для сябе, назіраючы за нашым жыццём?**

— Першае, што адразу кідаецца ў вочы — гэта чысціня вашых вуліц. Паверце, мне, немцу, гэта прыемна бачыць. Здзіўляе мноства блокавых дамоў. Цікава, ці пачуваюць іх жыхары сябе вольна і камфортна?

Але галоўнае, канешне, не ў гэтым. Наша місія існуе з *пасляваеннага часу.* 120 місіянераў пастаянна праводзяць адпаведную работу ў 10 краінах свету: Японіі, Філіпінах, Танзаніі, Заходняй Афрыцы, Бразіліі і іншых. Мэта наша адна — евангелізацыя народаў, якія па сённяшні дзень воляй лёсу адлучаны ад Бога. Натуральна, місіянерства спалучаецца з дабрачыннай матэрыяльнай дапамогай «труждающимся и обремененным», як сказана ў Псалтыры. Напрыклад, мы ратавалі жыхароў Філіпін пад час патопу, прывозілі туды вопратку, харчаванне. Пасля гэтага цэлы горад на «язычніцкіх» Філіпінах стаў хрысціянскім...

Пра вашу краіну мы мелі шмат супярэчлівых звестак, пэўнасці не было. Але, прыехаўшы на Беларусь, мы з сябрамі *падзівіліся,* з якой любоўю і пяшчотай Бог будуе свае храмы па ўсёй зямлі. На вашай Бацькаўшчыне — ці не найбольш... Мы раскажам у Нямеччыне пра вашу рэспубліку, як найбольш хрысціянскую з усіх краін, дзе нам дасюль давялося пабываць. Канкрэтная ж мэта нашага прыезду — дапамагчы Мінскай ЦЕХБ *стварыць у рэспубліцы* незалежны філіял АЛЬЯНС-МІСІІ.

**— Акрамя місіянерскіх, вы маеце і дабрачынныя намеры?**

— *Так.* Безумоўны рухавік нашых намаганняў — хрысціянская любоў, але яна падразумявае не толькі любоў да Бога, але і да канкрэтных людзей. Мы прывезлі бальнічныя ложкі і мэблю для 6-й гарадской бальніцы (перадача ўжо адбылася. — **Ю. Л.**), полівітаміны і шпрыцы ўнутрывенных ін'екцый для анкалагічнага цэнтра *ў Бараўлянах. Там жа мяркуем* абсталяваць нешта накшталт «біблейскага класа».

Цяпер мы больш ведаем пра Чарнобыль і, думаю, зможам аказаць патрэбную дапамогу.

Мы пабачылі на ўласныя вочы, што такое анкалагічнае захворванне, што такое рак.. Але не меней, а, можа, болей шкодным для любога народа з'яўляецца духоўны рак, панявера, апатыя, адсутнасць гістарычнага аптымізму. Мяркую, вам, вашаму народу зараз вельмі цяжка ў сэнсе духоўнага ўзмацнення і супакою, і наша, хрысціянскае місіянерства *можа* паспрыяць духоўнаму Адраджэнню Беларусі.

**— Як жа ставіцца Германія ўвогуле да дапамогі савецкім рэспублікам?**

— Да падзей 19—21 жніўня *адносіны былі досыць стрыманыя,* бо не было ўпэўненасці ў радыкальных дэмакратычных зрухах. Зрэшты, нямала перашкаджаў і вобраз ворага, які сфармаваўся на Захадзе за часы «халоднай вайны». Калі раней пра вас казалі «імперыя зла», дык у апошнія часы — «імперыя перабудовы». Мы ж не ведалі простых людзей, якія па сваёй агульначалавечай ментальнасці, як высветлілася, мала чым адрозніваюцца ад нас, германцаў. Цяпер мы разумеем, што раздзяленне на «камуністаў» і «капіталістаў» у многім аказалася надуманым, штучным...

У вашым горадзе мы сустрэлі многа дзелавых і сумленных людзей, з якімі можна мецъ агульную справу. Думаю, кантакты з вашай рэспублікай прадоўжацца.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Гутарыў Юрка ЛАГАДА.**

**РЭПЛІКА**

# ДЫК ХОЦЬ КАПЫТОМ...

Прызнацца, так званая незалежная левая газета «Мы и время» не ўваходзіла ў кола нашага чытання, хоць па асобных яе нумарах, якія прынасілі ў «ЛіМ» нашы абураныя чытачы, можна было меркаваць, якой лініі трымаюцца «Мыивременцы» — апалагетыка сталінізму, махровы антыдэмакратызм, дыскрэдытацыя перабудовачных працэсаў.

Але, як любіў гаварыць правадыр міжнароднага пралетарыяту У. І. Ленін, «верхом падения» стаў нумар 9-ы (дату выхаду «Мы и время» мы не можам назваць, бо гэта ці не адзіная газета ў рэспубліцы, якая трымае яе ў тайне, як і тэлефоны рэдакцыі, як і сапраўднае прозвішча рэдактара...). Мяркуючы па змесце, выйшаў ён недзе 20—21 жніўня, бо ў цэнтры першай старонкі змешчаны малюнак з перагорнутай старонкай календара, на якой чырвонай, «святочнай» фарбай пазначана дата —19 жніўня. Пад ёй тэкстоўка з красамоўным загалоўкам «З тупіка?»

Зразумела, што пасаж гэты *для «МиВа» зусім натуральны.* Сваімі матэрыяламі газета набліжала той путч, «как могла». Нават у гэтым нумары газета шпурнула камяк бруду ў «цяжка хворага» М. Гарбачова, выносячы ў загаловак інтэрв'ю з сумна вядомым палкоўнікам — народным дэпутатам, «саюзаўцам» Петрушэнкам яго словы: «У ядзернай стратэгіі наш прэзідэнт кіраваўся інфармацыяй, атрыманай у дзядзькі сваёй жонкі».

У гэтым сваім «святочным» нумары «Мы и время» друкуе і шэраг матэрыялаў у абарону свайго дзецішча (і трэба меркаваць, яшчэ сяго-таго) — так званай «грамадскай камісіі», якая вось ужо працяглы час пнецца абвергнуць вынікі расследавання масавых расстрэлаў органамі НКУС савецкіх грамадзян ва ўрочышчы Курапаты ў 1937 — пачатку 1941 г.

«ЛіМ» у свой час выказаў свае адносіны да гэтай «камісіі», якая па сутнасці імкнецца абяліць яжоўска-берыеўскіх катаў, і паўтарацца няма патрэбы. Тым больш, што нядаўна ў «Народнай газеце» была змешчана вялікая публікацыя Я. Гарэліка, якая каменя на камені не пакінула ад высноў, зробленых фальсіфікатарамі з той камісіі.

Але на адным артыкуле ў гэтай падборцы «МиВа» варта крыху спыніцца, бо яна яскрава сведчыць аб метадах, якімі карыстаюцца «журналісты» гэтага выдання. Метады гэтыя — падтасоўка фактаў, падмена паняццяў, *проста бессаромная* хлусня. Называецца артыкульчык, на які мы звярнулі ўвагу, «М. Замский как Павлик Морозов новой генерации» і быццам бы з'яўляецца адказам на лімаўскі рэпартаж з прэс-канферэнцыі, наладжанай «грамадскай камісіяй» у памяшканні музея гісторыі Айчыннай вайны. Але, спытаеце вы, пры чым тут Паўлік Марозаў — дарэчы, герой, сканструяваны сталінскімі ідэолагамі, якім моліцца «Мы и время»? Прызнацца, і мы ў рэдакцыі ніяк не маглі даўмецца, што тут пры чым. Як кажуць, «у агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька». Але прыканцы артыкула робіцца больш-менш ясна, на якія педалі націскае «МиВ». Аўтар нагаданага лімаўскага рэпартажу, каментуючы сцвярджэнне членаў камісіі, што ў Курапатах знойдзены астанкі не ахвяр ГУЛАГа, а гамбургскіх яўрэяў, знішчаных фашыстамі ў гады вайны, напісаў, што, мяркуючы па шматлікіх дакументах тых часоў, яўрэяў, дэпартаваных у Мінск з розных краін Еўропы, расстрэльвалі ў Трасцянцы і Койданаве, часткова ў самім Мінскім гета, а не ў Курапатах. І яшчэ: імкненне камісіі пакарыстацца фактам масавага забойства яўрэяў у сваіх далёка ідучых мэтах з'яўляецца здзекам з памяці і ахвяр *генацыду і ахвяр сталінскіх* апрычнікаў.

Дык зноў жа, пры чым тут Паўлік Марозаў? Як жа пры чым? Паўлік Марозаў здрадзіў свайму бацьку, а М. Замскі свайму яўрэйскаму народу. Ні больш, ні менш. Як кажуць, калі няма рагоў, дык хоць капытом...

І ўсё гэта пішацца ў газетцы, на старонках якой неаднойчы публікаваліся антысеміцкія а-ля «Память» артыкульчыкі.

Чытач, відаць, заўважыў, што ў гэтай рэпліцы «Мы и время» нагадваецца толькі ў мінулым часе. Сёння, як ніколі раней, становіцца зразумелым, што «время» гэтай газеткі вычарпана.

**Міхась ЗАМСКІ.**

**НА ПАВАРОЦЕ**

# ПРА «ЗДАРОВЫ СЭНС» І «БЕЛАРУСКУЮ ПАМЯРКОЎНАСЦЬ»

**«Дэпутаты ад Беларусі... збіраюцца... на ўзроўні другога паверха».**

Са стэнаграмы нечарговага З'езда народных дэпутатаў СССР.

**Вам не хочацца ўчыніць які-небудзь, даруйце, путч? Жыццё ж праходзіць, а расказаць няма пра што. Уражанне такое, нібыта ўлада ў рэспубліцы — у атмасферы ўсеагульнай млявасці і абыякавасці да жыцця — валяецца проста пад нагамі, на вуліцы. І яе, як тую лужыну, старанна абмінаюць, ідучы раніцай на працу, а ўвечары дадому, і «вярхі», і «нізы». Зразумела, што і першыя, і другія нечага хочуць, але, баюся, усіх нас сёння яднае нейкая здранцвелая няздатнасць узяць уласны лёс ва ўласныя рукі.**

**Зараз можна абмяркоўваць самыя розныя версіі наконт таго, чаму ў жніўні бронецягнік толькі тарганууся на сваім «запасном пути». Ці то машына канчаткова сапсавалася, ці то ў машыністаў рукі трэсліся, ці то ўсё так і задумвалася (рэшткі нашага камуністычнага друку сёння пішуць пра «змову Ельцына — Гарбачова», а перадрук з «Камерсанта» артыкула пра нестыкоўкі ў тлумачэннях *прэзідэнта надзіва дружна зрабілі і лібералізаваная* «Звязда», і вінегрэтныя «Семь дней», і невылечная «Мы и время»). Можна — і небеспадстаўна — казаць пра тое, што Ельцын своечасова не злез з танка і крыху перастараўся па часці экспарту расійскай рэвалюцыі. Можна... Ды ўсё цяпер можна, і вось мы, апрануўшы славутыя пікейныя жылеты, прагульваемся па плошчы — плошчы не нашай перамогі.**

**Але ж самае, на маю думку, галоўнае, што мы сёння павінны зразумець і ўсвядоміць, — гэта тое, што ў жніўні ў Маскве за семдзесят дзве гадзіны быў не толькі пераможаны ваенна-бюракратычны путч, але найперш была адноўлена ў правах, усталявана н о р м а грамадскага жыцця. Сітуацыя можа быць больш ці менш экстрэмальнай, але сутнасць у тым, што народ паводзіць сябе так, як і належыць народу, а лідэры — так, як і належыць лідэрам. У гэтым сэнсе я заўсёды зайздрошчу амерыканцам: іх дзяржаўныя і нават асабістыя інтарэсы абараняе законна выбранае кіраўніцтва, якое ў нештатных сітуацыях д з е й н і ч а е — адэкватна, хутка, рашуча. Зноў жа, для іх: гэта норма.**

**А для нас? Увогуле, наколькі нармальнае тое, што адбываецца цяпер у рэспубліцы?**

**Паўмесяца, якія прамільгнулі ўжо (!) з дня абвяшчэння незалежнасці Беларусі 24 жніўня, былі ахутаны густой дымавой заслонай шматлікіх прэс-канферэнцый, у часе якіх кіраўнікі розных ведамстваў асуджалі колішні пераварот, запэўнівалі ў непахіснай адданасці ідэям суверэнітэту, на шляхах ажыццяўлення якога яны бачаць светлую будучыню Беларусі і, вядома ж, сваё месца ў ёй.**

**Рашучасць урада імкнуўся сцвердзіць прэм'ер-міністр. У сваёй заяве ад 4 верасня Вячаслаў Кебіч абвяшчаў дзеянне выключна рэспубліканскіх законаў; нагадваў, што незалежнасць — гэта не толькі свабода, але і адказнасць; каторы раз казаў пра неабходнасць «у самы кароткі час» ажыццявіць структурную перабудову эканомікі; дзяліўся ўласнымі пакутлівымі перажываннямі, у выніку якіх ён «парваў з кіраўніцтвам КПБ»; мімаходзь асуджаў «нацыяналізм» і выказваў перакананасць, што ў рэшце рэшт мы справімся з «цяжкасцямі».**

**Вярхоўны Савет быў распушчаны на канікулы. Чарговую сесію—з дваццаццю васьмю, шмат у чым дземянцееўскімі пунктамі парадку дня — меркавалася склікаць ажно 15 кастрычніка.**

**Н-а-армальна...**

**Няўжо пасля ўсяго гэтага, пры наяўнасці поўнай адсутнасці таго, што можна было б назваць беларускай палітыкай, мы ўсур'ёз разлічваем на павагу і роўны дыялог з суседзямі — Польшчай, Літвой, Латвіяй, Расіяй, Украінай? Удзел беларускай дэпутацыі ў рабоце мінулага З'езда народных дэпутатаў СССР яшчэ раз засведчыў, што наш «пасад між народамі» досыць сціплы, да катэгорыі VIP мы не належым. Між тым апошнім часам у нас пачалі казаць пра інфармацыйную блакаду Беларусі, нібыта не мы самі вінаватыя ў адсутнасці навін (дарэчы, ці можна лічыць, што абаранак «блакіруе» сваю дзірку?).**

**Што ж адбываецца? Як казаў незабыўны Мікіта Зносак: «Пры цяперашнім палітычным і эканамічным становішчы Расійскай, меджду протчым, імпэрыі няможна йначай». Будынiна пад назвай СССР са страшэнным грукатам развалілася, не дачакаўшыся, пакуль будзе завершаны рамонт даху. На яе месцы мяркуецца ўзвесці новы, дакладней, «абноўлены» гмах. Навучаныя горкім вопытам, будаўнікі на гэты раз збіраюцца пачаць з паддашку.**

**Тым часам Беларусь спаўна спажывае вынікі банкруцтва камуністычнай сістэмы. «Чырвоныя» альбо прыцішыліся, альбо тэрмінова «паружавелі». Усе крывятокі нашага грамадства па-ранейшаму забітыя тромбамі наменклатуры. На капітанскіх мосціках стаяць людзі, вызначальнымі рысамі якіх з'яўляюцца некампетэнтнасць, надзвычай гнуткія хрыбетнікі і цынізм. Ваісціну, колькі варон не ганяй, яны ўсё роўна сядуць. І, як правіла, на той самы куст.**

**Вось чаму мне хочацца заткнуць вушы, калі чую акынскі напеў, маўляў, у цяперашняй складанай сітуацыі трэба кіравацца здаровым сэнсам і арыентавацца на лепшыя якасці беларускага народа, а менавіта на яго памяркоўнасць, цярплівасць, працавітасць... Гэта значыць — ніякіх змен, трымаемся да апошняга патрона ў суверэнна-наменклатурнай абойме.**

**Дазволім?**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# ЯК НАМ ЗВАЦЬ СВАЮ РЭСПУБЛІКУ?

(Пачатак на стар. 1).

іх не маглі быць прадстаўлены ні тыя сяляне, якія кармілі хлебам народ, ні рамеснікі (так званая «дробная буржуазія»), ні інтэлігенцыя (настаўнікі, урачы, інжынеры і г. д.). Права на ўдзел у грамадскім жыцці пазбаўлялася значная частка народа — прытым найбольш прадпрымальная, дзеяздольная, творчая.

Але аказваецца, што і тым самым рабочым, батракам і чырвонаармейцам нельга было давяраць думаць самастойна, нешта вырашаць. Для гэтага былі партыйныя стратэгі, якія адны толькі ведалі, што найбольш патрэбна для шчасця працоўным масам. Так званыя Саветы, якія адпаведным чынам падбіраліся, **не мелі ніякай рэальнай улады.** Іх задача была на кожную партыйную каманду адклікацца дружным крыкам «ўра!»

Члены першага беларускага савецкага ўрада ніяк не маглі зразумець, што яны павінны былі дбаць не пра Беларусь, а пра сусветны бальшавізм. За гэта іх тут жа разагналі, а аднаго з іх — Фабіяна Шантыра — праз нейкі час расстралялі. Арыштавалі і Жылуновіча. Праўда, яму пакуль што ўдалося выратавацца.

У той жа час кіраўнікі БНР у найцяжэйшых умовах акупацыйных рэжымаў рабілі ўсё для абароны інтарэсаў беларускага народа, для развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры. Сёння мы абавязаны нарэшце сказаць выразна, што беларуская літаратура і культура развіваліся толькі на тэрыторыі, якая знаходзілася пад акупацыяй то кайзераўскай Германіі, то легіёнаў Пілсудскага. Беларускія патрыёты цаной незвычайных намаганняў знаходзілі магчымасць ва ўмовах ваеннага ліхалецця і разбурэнняў выдаваць беларускую перыёдыку («Вольная Беларусь», «Гоман», «Беларускі шлях», «Звон», «Беларусь», «Рунь» і інш.), друкаваць не толькі бягучую інфармацыю, але і мастацкія творы, і публіцыстычныя артыкулы.

У гэтыя выданні прысылалі свае творы нават пісьменнікі, якія жылі на тэрыторыі, дзе панавала савецкая ўлада. Нагадаю, што ў «Вольнай Беларусі» друкавалася паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» ў той час, калі аўтар жыў на Куршчыне. На акупаванай тэрыторыі пабачылі свет камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта» і «Залёты» (нашы літаратуразнаўцы і сёння любяць паўтараць, што яны ўпершыню былі апублікаваны толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, але пры гэтым забываюць удакладніць, дзе гэта адбылося), шматлікія творы Купалы, Гарэцкага, Гаруна, Бядулі і многіх іншых. З'яўляліся ў друку навуковыя працы і артыкулы Я. Карскага, А. Луцкевіча, В. Ластоўскага, Р. Зямкевіча і іншых. БНР па-сапраўднаму, па-гаспадарску дбала аб развіцці нацыянальнай культуры.

У той жа час у перыяд грамадзянскай вайны на тэрыторыі Савецкай Беларусі не дапускалася і думкі пра магчымасць карыстання роднай мовай. Праўда, для бальшавіцкіх кіраўнікоў — Мяснікова, Кнорына, Ландэра, Рэйнгольда, Рэзаўскага, Берсана, Крывашэіна, Алібегава (усіх іх не пералічыць) беларуская мова ніколі не была роднай. Забараняючы выдаваць газету на беларускай мове (чаго дамагаўся З. Жылуновіч і яго сябры), бальшавікі ліквідавалі нават тое, што было заваявана ў выніку рэвалюцыі 1905 года яшчэ ў «турме народаў», пры самадзяржаўным ладзе.

Калі сёння параўнаць дзве палітычныя платформы, асабліва з улікам усяго гістарычнага вопыту, зусім няцяжка пабачыць, якая з іх адпавядала рэальным патрэбам жыцця беларускага народа. Перамагла — зусім не дэмакратычнымі метадамі — антынацыянальная, антынародная лінія Мяснікова-Кнорына. Яна ў перспектыве прывяла да вынішчэння нацыянальных кадраў ва ўсіх галінах эканомікі, культуры, палітычнага жыцця, да масавых рэпрэсій.

Сёння мы сталі сведкамі банкруцтва бальшавізму як ідэалогіі, як тэорыі і практыкі сацыялістычнага пераўтварэння грамадства. І настала пара адмовіцца ад такіх перажыткаў той сістэмы, як назва рэспублікі, герб, гімн, сцяг.

Я не забываю, што эпітэт «народная» ў спалучэнні са словам «рэспубліка» ў апошнія часы выходзіць з моды і паступова знікае з геаграфічных карт. Але гэта адбываецца ў тых выпадках, калі ён быў навязаны сілай без ведама і згоды народаў. У Беларусі ж зусім іншая сітуацыя. Тут народная рэспубліка з'явілася на кульмінацыйнай хвалі нацыянальна-вызваленчага руху, на сваёй роднай глебе. У тых умовах сама назва падкрэслівала суверэннае права беларускага народа самому вырашаць свой лёс. Маладая дэмакратыя на нашай зямлі была, аднак, ліквідавана ворагамі беларушчыны.

Некалькі слоў пра ўсесаюзны герб. У ім усё яшчэ жыве мара пра сусветную рэвалюцыю. Серп і молат красуюцца на фоне ўсяго зямнога шара. Беларускі герб ствараўся па ўзору ўсесаюзнага. І ўсё яшчэ застаецца афіцыйным рэспубліканскім сімвалам. У якасці герба павінна да нас вярнуцца гістарычная «Пагоня», аформленая на сучасным мастацкім узроўні.

Дзяржаўныя сімвалы павінны выклікаць у грамадзян пачуццё гонару. Аднак якія эмоцыі можа абудзіць сённяшні герб? Я сабе не ўяўляю. А вось «Пагоня» натхніла класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча на стварэнне сапраўднага шэдэўра яшчэ ў дакастрычніцкі час:

**У белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

У наш час гэтую «Пагоню» хацелі б стрымаць духоўныя нашчадкі Мяснікова-Кнорына і ўсіх тых, каму беларускае нацыянальнае адраджэнне стаяла ўпоперак дарогі, якая прывяла нашу краіну ў тупік.

Наш гімн па-ранейшаму славіць партыю, якая, не збочваючы нікуды з дарогі, «к шчасцю вядзе нас ў паход». Магчыма, ролю гімна магла б выконваць песня «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Аднак гэта не значыць, што нельга было б стварыць нешта больш сучаснае. І настала пара прыняць адпаведнае рашэнне.

І апошняе — пра сцяг. Асноўным колерам павінен быць у ім белы, таму што Русь у нас Белая. Але і чырвоны павінен застацца, як даніна павагі да ўсёй нацыянальнай гісторыі (нагадаю, што чырвоным быў сцяг Беларускай сацыялістычнай грамады), як напамін аб тым, што на працягу стагоддзяў і асабліва ў час дзвюх сусветных і грамадзянскай войнаў, а таксама ў перыяд сталінскіх рэпрэсій пралілося цэлае мора народнай крыві. І найбольш апраўданым можа быць бела-чырвона-белы сцяг. Толькі ён можа ўвасабляць надзеі народа (белы колер) і не дазваляць яму забываць пра пакуты.

Кіраўніцтва КП (б)Б, пачынаючы з часоў Мяснікова-Кнорына, вяло бескампрамісную барацьбу супраць беларушчыны ва ўсіх яе праявах (з перапынкам у 20-я гады). Хваля антынацыянальнай кампаніі дакацілася і да нашых дзён. Ідэалагічныя камандармы ніколі не саромеліся таго, што ў сваёй бясслаўнай дзейнасці па дыскрэдытацыі нашай гісторыі яны цярпелі правал за правалам.

Да апошняга часу ідэолагам не давалі спакойна спаць ні Беларуская Народная Рэспубліка, ні бела-чырвона-белы сцяг, ні «Пагоня». Але такая антынацыянальная кампанія не прынесла славы і лаўраў яе натхняльнікам і арганізатарам. Будзем спадзявацца, што яна ўжо закончылася.

## II

Сёння могуць сказаць: як бы там ні было, але ў 20-я гады іменна бальшавіцкая партыя ажыццяўляла палітыку інтэнсіўнай беларусізацыі. Пачатак яе паклала адраджэнне Савецкай Беларусі 31 ліпеня 1920 года.

Мы і сапраўды не маем права абыходзіць тую незвычайную з'яву, якой была дзяржаўная палітыка развіцця беларускай нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы, навучальных устаноў усіх ступеняў і профіляў, бібліятэк, тэатраў, перыядычных і навуковых выданняў. Гэта быў феномен, які даў магчымасць беларусам захавацца як нацыі. Не так ужо цяжка ўявіць сабе, што здарылася б, калі б на тэрыторыі Беларусі, пачынаючы з ліпеня 1920 года, былі забаронены любыя выданні на нацыянальнай мове, калі б у 20—80-я гады працягвалася ажыццяўленне той палітыкі, якую ў першыя паслякастрычніцкія месяцы, у тым ліку і пасля абвяшчэння ССРБ, праводзілі бальшавіцкія лідэры Заходняй вобласці, Аблвыканзаха і затым ССРБ.

Прыдатную глебу для беларусізацыі падрыхтавала ўсё беларускае нацыянальнае адраджэнне пачатку XX стагоддзя, развіццё літаратуры, небывалы рост нацыянальнай свядомасці народа. Дзякуючы гэтым працэсам, стала не толькі магчымым, але і непазбежным скліканне Першага Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 года, затым абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, што прымусіла бальшавікоў, у сваю чаргу, абнародаваць маніфест аб утварэнні ССРБ. («Противопоставляя самостоятельную Социалистическую Республику Белоруссию буржуазной народной республике во главе с Радою, мы уничтожали всякую возможность использования против нас лозунга самоопределения народов», — пісаў Кнорын).

Спроба задушыць беларускае нацыянальнае адраджэнне закончылася поўным правалам. Ідэі адраджэння ўжо нельга было выкараніць са свядомасці народа. Гэта — з аднаго боку. А з другога — падзел Беларусі на дзве часткі прымусіў бальшавікоў, з чыста тактычных меркаванняў, прызнаць права беларусаў на тое, што сёння можна было б назваць **культурна-нацыянальнай аўтаноміяй.** Ніяк не больш.

І тым не менш гэтая аўтаномія дазволіла зберагчы нашу мову ды і само паняцце «беларуская нацыя», што ў нашы дні і стварыла аснову для новага — на гэты раз ужо не толькі культурнага, але і нацыянальна-дзяржаўнага — адраджэння.

Варта яшчэ раз нагадаць: у 1919 годзе Кнорын, пішучы пра Савецкую Беларусь, карыстаўся такімі выразамі: «мнимая независимость» (с. 47), «формально самостоятельная» (с. 54). Ён дае таксама ясны і недвухсэнсоўны адказ на пытанне, чаму ва ўрадзе ССРБ не магло быць месца для Жылуновіча, Шантыра, Фальскага, Дылы і іх аднадумцаў: «Для нее (групы беларускіх членаў першага савецкага ўрада рэспублікі. — **У. К.**] самостоятельность Белоруссии не была только пустым звуком» (с. 52). У 1919 годзе ён нават і думкі не дапускаў, што ў Савецкай Беларусі магла б выходзіць газета на нацыянальнай мове.

І вось той самы Кнорын аказаўся па сутнасці адной з галоўных дзеючых асоб працэсу адраджэння Савецкай Беларусі і праваднікам палітыкі беларусізацыі. Чаму ён так раптам паразумнеў? З заядлага, непрымірымага ворага беларушчыны ў адзін нейкі момант прасвятлення стаў яе адданым абаронцам?

Цудаў на свеце (маецца на ўвазе свет з бальшавіцкім матэрыялістычным светапоглядам) не бывае. Кнорын застаўся Кнорыным, верным ідэалам партыі, ідэі сусветнай рэвалюцыі, а ў арганізацыйным плане — непахісным прынцыпам дыктатуры з вяршыні партыйнай піраміды да самых нізоў.

Маніпуляцыі з абвяшчэннем беларускай фіктыўнай дзяржаўнасці і з яе ліквідацыяй былі заўсёды абумоўлены знешнепалітычнымі абставінамі. Каб пераканацца ў гэтым, яшчэ раз вернемся да неабвержнай крыніцы — да сведчанняў таго ж Кнорына: «Коммунистическая партия в этом своем постановлении (аб утварэнні ССРБ. — **У. К.**) совершенно оставляла в стороне вопросы внутренней жизни страны, она мотивировала свой шаг исключительно причинами международного характера» (с. 50). «Белорусско-литовская государственность изживает себя как практическая необходимость для творческой советской работы, она становится лишь фактором в международных отношениях» (с. 55). Што ж датычыць самой Беларусі, то пра яе ў тым самым 1919 годзе мы даведваемся ад таго ж аўтара: «Белоруссия как самостоятельная социалистическая республика теряет и свой международный политический смысл».

Тут ужо генеральны напрамак вызначыўся дастаткова выразна: ставілася стратэгічная задача канчаткова ліквідаваць Савецкую Беларусь як нацыянальную рэспубліку.

І тут нечакана 31 ліпеня 1920 года была абнародавана дэкларацыя пра абвяшчэнне незалежнасці ССРБ, прытым на зусім невялічкім скраўку беларускай зямлі. Гарантам і надзейным вартаўніком гэнай так званай незалежнасці заставаўся той самы Кнорын.

Штосьці ж адбывалася на шырокім свеце, калі было прынята такое рашэнне? Бо толькі змены ў міжнароднай сітуацыі маглі прымусіць бальшавікоў здзейсніць нешта падобнае.

Сапраўды адбывалася. Разгортвалася наступленне Чырвонай Арміі на Варшаву. Вось-вось яна расправіцца з польскімі памешчыкамі і буржуазіяй і ашчаслівіць пралетарскія масы, паможа ім стварыць сваю бальшавіцкую рэспубліку. 30 ліпеня 1920 года ў Беластоку ўтвараецца нешта накшталт улады для бальшавіцкай Польшчы — Часовы рэвалюцыйны камітэт.

Аднак здарылася нечаканае: адбыўся так званы «цуд над Віслай» — поўны разгром бальшавіцкіх войск пад Варшавай. Не ўдалося паўтарыць таго, што зрабілі калісьці Сувораў у 1794 і Паскевіч у 1831 гадах. І на захадзе склалася кардынальна новая сітуацыя, што прывяла да перамір'я (12 кастрычніка 1920 г.) і Рыжскага міру (18 сакавіка 1921 г.), у выніку якога Беларусь аказалася падзеленай.

Аб тым, як бальшавікі на самай справе адносіліся да так званай незалежнасці Беларусі, сведчыць хоць бы такая дэталь, зусім-такі дробязь: дагавор у Рызе падпісвалі, з аднаго боку, РСФСР і УССР, а з другога — Польшча. Толькі беларусам за сталом перагавораў месца не аказалася. У Рызе яны прысутнічалі, але з імі ніхто не лічыўся. Дзялілі там тэрыторыю той Беларусі, якую, па іроніі лёсу, бальшавікі некалькі месяцаў таму назад — ужо другі раз! — абвясцілі незалежнай.

На працягу сваёй гісторыі Беларусь шмат разоў служыла аб'ектам самых разнастайных махінацый. Паўтару яшчэ раз, што ў студзені 1919 года ад Беларусі забралі ўсходнія губерні, а астатняе далучылі да Літвы, стварыўшы так званы Літбел. Гісторыя, аднак, хутка паставіла крыж на гэтым адміністрацыйна - тэрытарыяльным творы бальшавіцкіх архістратэгаў. І тады Ленін аддаў карэнныя беларускія тэрыторыі Літве.

А што далей? Сваю гульню працягвала Польшча. Яна прыхапіла тыя беларускія тэрыторыі, на якіх збіралася гаспадарыць Літва. За нашы землі спрачаліся бальшавікі, палякі і літоўцы. Толькі пра волю беларусаў ніхто не падбаў.

## III

Пасля заканчэння вайны і заключэння Рыжскага міру ніякая гадалка, якая хоць трошкі арыентавалася б у палітыцы, не дала б рады прадказаць далейшы лёс Беларусі. Бальшавіцкія стратэгі зноў маглі выкарыстаць адраджэнне Савецкай Беларусі для яе ліквідацыі. Каб раз і назаўсёды засталося тое становішча, якое было ўзаконена на І Усебеларускім з'ездзе Саветаў праз месяц пасля абвяшчэння ССРБ, пра што з такім трыумфам пісаў Кнорын: «...Был устранен национально-белорусский элемент».

Гісторыя, аднак, зрабіла іншы выбар. Шырокім фронтам разгарнулася беларусізацыя. Не ведаю, ці хто-небудзь паспрабаваў разгадаць прычыну такога феномена. А прычына мне бачыцца ў адным: трэба было паказаць беларусам, якія засталіся на захадзе, што іх сапраўдная радзіма знаходзіцца пад уладай Саветаў, што толькі тут, у Савецкай Беларусі, па-гаспадарску, на дзяржаўным узроўні дбаюць пра мову, культуру і эканоміку беларускага народа. Менск ператвараўся ў палітычны і культурны цэнтр усіх тых беларусаў, якія звязвалі з нацыянальным адраджэннем свае надзеі, у духоўную сталіцу ўсіх беларусаў, дзе б яны воляю лёсу ні апынуліся, у якой бы дзяржаве ні жылі. Ствараліся ўмовы для таго, каб беларусы ў Рэчы Паспалітай мелі падставу патрабаваць уз'яднання з аднакроўнымі братамі на ўсходзе.

У гэтай справе Ленін як палітык аказаўся больш дальнабачным за кіраўнікоў Рэчы Паспалітай, якія спадзяваліся, што на «крэсах усходніх» за нейкіх 20 (а можа, і за 50) гадоў застануцца адны толькі палякі.

Аглядваючыся на пройдзены шлях, пазбавіўшыся ад няпрошанай апекі ідэалагічных невукаў з найвышэйшых партыйных інстанцый, мы абавязаны прызнаць, што толькі абвешчаная ў сакавіку 1918 года БНР выяўляла сапраўдныя інтарэсы беларускага народа — палітычныя, культурныя, эканамічныя (хоць практычна нічога рэальнага ажыццявіць не ўдалося па віне розных прыблудаў).

Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што мы абавязаны адрадзіць сёння назву БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА з яе нацыянальнай сімволікай, перайменаваць Вярхоўны Савет у Раду БНР, а таксама ўзяць з праграмных дакументаў 1917—1920 гадоў усё найбольш каштоўнае для вызначэння далейшых напрамкаў развіцця Беларусі.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

ПАБЫЎ у Івянцы — на радзіме Дзяржынскага. Зайшоў у музей яго імя, чуў, як тлумачыла экскурсавод: «Мы ганарымся, што наша беларуская зямля падарыла краіне рыцара рэвалюцыі Дзяржынскага... Ён па заслугах ацэнены, яму пастаўлена мноства помнікаў, яго імем названы ў краіне 33 гарады, пасёлкі, станцыі, мноства калгасаў, вуліц, плошчаў...»

Усё правільна — не знойдзеш, відаць, ніводнага горада, пасёлка, дзе б не было ці помніка яму, ці вуліцы, плошчы, названых яго імем. А колькі калгасаў, саўгасаў, вёсак, прадпрыемстваў, устаноў носяць імя жалезнага Фелікса!

Апошнім часам ускрылася шмат фактаў злавеснай дзейнасці Дзяржынскага, яго амаральнасць, злачынствы супраць чалавецтва. І стала вядома сапраўдная роля гэтага ката.

практык марксізму Ленін вучыў Дзяржынскага, што калі мэты рэвалюцыі патрабуюць расстраляць тысячы — трэба расстраляць. На скаргу М. Горкага, што Дзяржынскі арыштоўвае шмат інтэлігентаў, буйных вучоных, пісьменнікаў, Ленін, абараняючы свайго вернага паплечніка, сказаў: няважна, што яны сёння не вінаваты, яны могуць быць вінаваты заўтра.

Жалезны Фелікс асабіста складаў спісы на расстрэл. Чырвоны тэрор для яго кіпучай лютай натуры быў роднай стыхіяй. Ніхто і ніколі не падлічыць, колькі ж людзей загінула ў чэкісцкіх засценках, бо справы заводзіліся рэдка на каго, знішчалі і спісы расстраляных.

Аб'яўлены ўладай чырвоны тэрор, вядома ж, асуджаўся сусветнай грамадскасцю, не прымаўся народнымі масамі і ў Расіі. Дзяржынскі, каб падмануць гра-

расстраляны».

ВЧК выдавала штотыднёвікі, у якіх друкаваліся розныя загады, інструкцыі, спісы расстраляных. Душа халадзела, калі чытаў іх. У спісах указваліся прозвішчы, многія без імёнаў, не тлумачылася, чаму яны расстраляны. У адным з тых штотыднёвікаў пісалася: «Час, пакуль не позна, не на словах, а на справе правесці самы бязлітасны стройна арганізаваны тэрор. Прынёсшы смерць «праздным белоручкам» (стыль чэкістаў), мы ўратуем сацыялістычную рэвалюцыю».

А вось «Загад аб заложніках», выдадзены Дзяржынскім: «...надзвычай малая колькасць сур'ёзных рэпрэсій і масавых расстрэлаў белагвардзейцаў і буржуазіі з боку саветаў паказвае, што, нягледзячы на пастаянныя словы аб масавым тэроры супраць эсэраў, белагвардзейцаў і буржуазіі, гэтага тэрору на

**Васіль ХОМЧАНКА**

# НАШ СЛАВУТЫ ЗЯМЛЯК

## Некаторыя штрыхі да партрэта «жалезнага Фелікса»

Жорсткасць у бальшавікоў лічылася ці не самай станоўчай якасцю. Фелікс Дзяржынскі быў адным з самых лютых паплечнікаў Леніна. Ён не ведаў, што такое міласэрнасць, спагада, гуманнасць. У яго не дрыжала рука, калі падпісваў спісы на расстрэл, не дрыжаў голас, калі даваў вусныя загады на расстрэл. І гэта столькі гадоў у нас ухвалялася, славілася! «Делать жизнь с Дзержинского», — заклікаў Маякоўскі. Колькі панегірыкаў было напісана ў яго хвалу — паэм, вершаў, п'ес, раманаў. Напрыклад, верш Э. Багрыцкага пра Дзяржынскага доўгі час уключаўся ў школьныя чытанкі, часта гучаў са сцэны, па радыё. Паэт захапляўся дзеяннем Фелікса: «Но если он скажет: «Солги» — солги. Но если он скажет: «Убей» — убей».

Дзяржынскаму даручылі самы крывавы ўчастак дзяржаўнай дзейнасці — яго прызначылі старшынёй Надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй — ВЧК, і ён да канца свайго жыцця ўзначальваў гэты орган, што пакінуў у гісторыі страшны след. Эстафету ЧК — ГПУ прыняў потым НКУС, МДБ. Ахвярамі бальшавіцкага тэрору за перыяд з кастрычніка 1917 па 1959 год сталі 66.700 тысяч чалавек. Гэта лічба занесена ў кнігу рэкордаў Гінеса.

Здзіўляцца бальшавіцкаму тэрору не трэба. Гэта не нейкае псіхічнае адхіленне ад нормы асобных камуністычных кіраўнікоў, не іх біялагічная выроднасць. Гэта вынаходзеныя імі сродкі палітычнай барацьбы, тэрор — састаўная частка марксізму, яго ідэалогіі, якую бальшавікі і ўзялі на ўзбраенне. Іх крэда: усё, што на карысць рэвалюцыі,—маральна і дазволена.

Прызначыўшы Дзяржынскага старшынёй ЧК, яму былі дадзены неабмежаваныя паўнамоцтвы. Чэкісты мелі права расстрэльваць на месцы без суда і следства. Яны самі арыштоўвалі, самі судзілі і самі забівалі. Ніякай скаргі на дзеянні ЧК не прымалася. Дзяржынскі рашуча паўстаў супраць кантролю над яго камісіяй, а тым больш крытыкі ў яе адрас. Па яго патрабаванні бюро ЦК РКП(б) прыняло рашэнне аб забароне ў друку крытыкі ВЧК.

У Дзяржынскага, пазбаўленага ўсякага кантролю, карная ініцыятыва не мела межаў. Забівалі і людзей зусім лаяльных, віна якіх была толькі ў тым, што яны паходзілі з заможных слаёў — так званыя буржуазныя элементы. Гэта — дваране, заводчыкі, купцы, чыноўнікі, вайскоўцы, служкі царквы. Іх знішчалі проста для запалохвання іншых.

Актыўны памочнік Дзяржынскага Лацiс са згоды свайго начальніка растлумачыў у газеце «Красный террор» ад 1.XI. 1918 г. метад работы ЧК: «Мы не вядзём вайны супраць асобных людзей, мы знішчаем буржуазію як клас. Не шукайце на следстве матэрыялаў і доказаў таго, што абвінавачваемы дзейнічаў словамі ці справай супраць савецкай улады. Першае пытанне, якое вы павінны яму прапанаваць, да якога класа ён належыць, якога паходжання, выхавання, адукацыі ці прафесіі? Гэтыя пытанні і павінны вызначыць лёс абвінавачваемага. У гэтым сэнсе і сутнасць чырвонага тэрору».

Распаўсюджаным метадам тэрору ў чэкістаў было заложніцтва. Арыштоўвалі невінаватых людзей, трымалі ў турмах і расстрэльвалі за віну іншых, а то і проста як людзей, якія, на іх думку, здольны зрабіць шкоду савецкай уладзе. Галоўны

мадскасць, на пленуме ЦК РКП(б) 26 верасня 1919 года прапанаваў афіцыйна зняць тэрор з лозунгаў, праводзіць яго ціха. Прапанову Дзяржынскага прынялі: пастанавілі афіцыйна тэрор не аб'яўляць, а «працягваць фактычна».

Гаворачы пра неабходнасць тэрору, камуністычная прапаганда сцвярджала, што гэта робіцца ў адказ на тэрарыстычныя акты буржуазіі і прадстаўнікоў іншых скінутых класаў. Такія тэрарыстычныя акты былі. Забілі Валадарскага, Урыцкага, стралялі ў Леніна, быў выбух у доме Маскоўскага камітэта РКП. Але, дарэчы, прадстаўнікі буржуазіі былі тут ні пры чым. Валадарскага застрэліў эсэр, у Леніна страляла эсэрка, былая катаржанка, Урыцкага забіў таксама чалавек, які падзяляў эсэраўскія погляды. А бомбу ў дом Маскоўскага камітэта кінулі анархісты, таксама былыя катаржнікі.

Некалькі прыкладаў крывавых злачынстваў, якія можна аднесці асабіста да Дзяржынскага. Калі быў забіты старшыня Петраградскага ЧК Урыцкі, разбірацца з гэтай справай з Масквы прыехаў сам Дзяржынскі. І разабраўся — загадаў расстраляць усіх арыштаваных заложнікаў, што знаходзіліся ў турмах Петраграда. У друку паведамілі, што іх было 512 чалавек, сярод якіх 90 жанчын. Дзяржынскі тады ж прызначыў старшынёй ЧК горада Бокія, яшчэ большага ката-садыста.

25 верасня 1919 года ў доме Маскоўскага камітэта РКП, дзе праходзіла партыйная нарада, выбухнула бомба. Былі ахвяры. Камендант Маскоўскага ЧК Захараў расказваў: «Прыехаў Дзяржынскі і аддаў загад расстраляць па спісах усіх заложнікаў кадэтаў, прадстаўнікоў старога рэжыму, якія знаходзіліся ва ўсіх месцах зняволення. У адной Бутырскай турме іх знаходзілася звыш трох тысяч. Там былі былыя міністры (Макараў, Самарын), былі члены сацыялістычных партый, былі князі Даўгарукія, Нарышкіны, Бобрынскія, шмат было і сялян, рабочых, крамнікаў, інтэлігентаў. Ужо раніцай 26 верасня вывезлі з Бутыркі ў Пятроўскі парк першую партыю і там расстралялі. Масавыя расстрэлы заложнікаў адбыліся ў іншых турмах, у скляпеннях ЧК на Лубянцы, у гістарычным доме графа Растопчына — там было Маскоўскае ЧК. Акцыя была праведзена за трое сутак».

Дзяржынскі быў не толькі практыкам тэрору, але і аўтарам многіх карных законаў і інструкцый. Па яго ініцыятыве быў уключаны ў пастанову СНК РСФСР ад 5 верасня 1918 года «Аб чырвоным тэроры» такі пункт: «Падлягаюць расстрэлу ўсе асобы датычныя (прикосновенные) да белагвардзейскага руху». Гэтымі «прикосновенными» з'яўляюцца родзічы, сябры, нават блізкія суседзі.

А вось выпіска з загаду Дзяржынскага, разасланая ўсім падначаленым губернскім ЧК: «У сваёй дзейнасці ВЧК поўнасцю самастойная, праводзячы вобыскі, арышты, расстрэлы... На месцах губернскія і павятовыя ЧК даюць справаздачу аб сваёй дзейнасці «в целом, но никакой отдельной его части» (стыль Дзяржынскага. — **В. Х.**).

Чэкісты, якім Дзяржынскі развязаў рукі, і дзейнічалі адпаведна. Вось што дакладваў Дзяржынскаму начальнік Ніжагародскай губчэка:

«Камісія на забойства Урыцкага адказала тэрорам і расстраляла 41 чалавека з лагера буржуазіі, масавымі вобыскамі і арыштамі. Арыштаваныя будуць таксама

справе няма... З такім становішчам павінна быць рашуча скончана. З буржуазіі і афіцэрства павінна быць узята значная колькасць заложнікаў. Пры малейшых спробах супраціўлення і малейшым руху ў белагвардзейскім асяроддзі павінен прымяняцца масавы расстрэл».

«Масавы тэрор» — любімы тэрмін, бальшавіцкіх дзеячаў таго часу. Гэта пайшло ад Леніна, яго тэлеграмы ў Петраград з заклікам «...заахвочваць энергію і масавіднасць тэрору».

Давялося прачытаць артыкул «Чэ-Ка» ў штотыднёвіку «Красный меч» — органе палітаддзела Асобага корпуса войск ВЧК, непасрэдна падначаленага Дзяржынскаму. «Для нас,— пісалася там,— няма і не можа быць старых устояў маралі і гуманнасці, выдуманых буржуазіяй... Нам усё дазволена... Ахвяры, якія мы патрабуем,— ахвяры выратавальныя, якія ўсцілаюць шлях да светлага царства Працы, Свабоды і Праўды. Кроў? Няхай кроў, калі толькі ёю можна выфарбаваць у чырвоны колер шэра-белы штандарт старога разбойніцкага свету».

Пад канец грамадзянскай вайны пагроза савецкай уладзе скончылася, урад вымушаны быў абмежаваць пакаранне смерцю на тэрыторыі, дзе не праходзілі ваенныя дзеянні. Аднак Дзяржынскі не мог жыць без расстрэлаў і аддаў вось такое распараджэнне сваім падначаленым: «Сакрэтна. Цыркулярна. Старшыням ЧК, ВЧК. З прычыны адмены смяротнай кары прапануем усіх асоб, якія за розныя злачынствы падлягаюць вышэйшым мерам пакарання, адпраўляць у паласу ваенных дзеянняў, як месца, куды дэкрэт аб адмене смяротнай кары не распаўсюджваецца. 15 красавіка 1920 г.». Разаслаў яго кіраўнік асобага аддзела ВЧК Ягода.



Помнік Ф. Дзяржынскаму ў Стоўбцах

Практыка заложніцтва працягвалася і пасля грамадзянскай вайны. Ва ўрадавым паведамленні ад 30 лістапада 1920 г. гаварылася, што заложнікамі грамадзяне бяруцца і будуць брацца далей. Узятыя заложнікамі нясуць адказнасць за дзейнасць эмігрантаў — контррэвалюцыянераў. У выніку замаху на правадыроў Савецкай Расіі яны, заложнікі, будуць знішчаны.

Чэкісты ўжо не хацелі выпускаць з рук сваю ўладу. Усякае насілле прыцягвае да сябе маральна непаўнацэнных людзей, садыстаў і крымінальнікаў. Чэка і ператварылася ў зборышча такіх асоб. Каб даказаць сваю неабходнасць, камісія фабрыкавала ўсё новыя і новыя справы. Ва ўрадзе і ЦК партыі ставіліся пытанні аб адмене надзвычайных паўнамоцтваў ЧК. Дзяржынскі гэтае пытанне заблакіраваў. Вось як ён абгрунтоўваў сваю пазіцыю: «Мы свядома маглі закрыць вочы на шэраг сваіх памылак. Закон дае ЧК магчымасць адміністратыўным метадам ізаляваць тых парушальнікаў працоўнага парадку, паразітаў ці асоб падазроных па контррэвалюцыі, у адносінах якіх дадзеных для судовага пакарання мала і дзе ўсякі суд, нават самы суровы іх заўсёды ці ў большай меры апраўдае».

Дзяржынскі патрабаваў пашырыць сетку лагераў, якіх ужо было нямала. «Я прашу пакінуць гэтыя канцлагеры,— настойваў ён,— для скарыстання працы арыштаваных...» Лагеры пакінулі, іх з цягам часу стала яшчэ больш.

У 1921 годзе нарэшце зразумелі, што нельга трымаць некантралюемы законам рэпрэсіўны апарат. На IX Усерасійскім з'ездзе Саветаў ужо Ленін унёс прапанову аб пераўтварэнні ВЧК і пазбаўленні яе многіх правоў. Дзяржынскі не згадзіўся і патрабаваў пакінуць усё, як было. Стварылі камісію, аднак яна не змагла пераканаць Дзяржынскага. У 1922 г. ВЧК стала ГПУ, але фактычна ў яго дзейнасці нічога не змянілася. А калі ГПУ зрабілі АГПУ, то паўнамоцтвы яго яшчэ і пашырыліся.

Ёсць апарат, патрэбны і сродкі на яго ўтрыманне. Дзяржынскі патрабаваў больш і больш сродкаў на ўтрыманне сваёй установы. Нарком фінансаў Г. Сакольнікаў тады яму адказаў: «Попыт нараджае прапанову. Чым больш сродкаў атрымаюць вашы работнікі, тым больш будзе дутых спраў. Такая спецыфіка вашай небяспечнай установы».

Нашчадкі Дзяржынскага потым прыпомнілі Сакольнікаву гэтыя яго словы — ён быў расстраляны.

Хто падлічыць, колькі сфальсіфікаваных спраў на рахунку ведамства Дзяржынскага. Вось адна з іх. У 1921 годзе была сфабрыкавана справа так званай Петраградскай баявой арганізацыі, якой інкрымінавалі змову супраць савецкай улады. Было арыштавана больш чым сто чалавек, у асноўным інтэлігентаў — вучоных, літаратараў, інжынераў. Стварыў гэту справу вядомы кат Я. Агранаў. Суда над імі не было (успомніце словы Дзяржынскага — суд бы апраўдаў іх). Пастановай калегіі Петраградскага ЧК з санкцыі Дзяржынскага 24 жніўня 1921 года з гэтай групы было расстраляна 61 чалавек, сярод якіх быў паэт М. Гумілёў і 20 жанчын.

Потым Дзяржынскі арганізаваў працэс над лідэрамі правых сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Іх асудзілі на смерць, але

**(Працяг на стар. 12).**

## КНІГАПІС




МЕСЯЧНЫЯ НОЧЫ. Апавяданні беларускіх пісьменнікаў. Укладальнік У. Рубанаў. На казахскай мове. Алма-Ата, «Жазушы», 1991.

**Серыя «Бібліятэка «Дружба», якую выпускае казахскае выдавецтва «Жазушы», знаёміць чытачоў з творчасцю пісьменнікаў, прадстаўнікоў розных народаў Савецкага Саюза. На гэты раз у ёй выступаюць беларусы. У зборнік «Месячныя ночы» ўвайшлі апавяданні Я. Скрыгана, Я. Брыля, А. Васілевіч, І. Шамякіна, І. Навуменкі, У. Дамашэвіча, П. Місько, В. Адамчыка, В. Карамазава, І. Чыгрынава, А. Кудраўца, Б. Сачанкі, Я. Сіпакова, Г. Далідовіча, В. Гігевіча, В. Коўтун, А. Жука, Г. Марчука, А. Кажадуба, У. Арлова, У. Рубанава і А. Рыбака, перакладзеныя шэрагам аўтараў.**




СВЕТ ПРАЦЫ. Зборнік мастацкіх твораў. Складальнік І. Забіяка. На ўкраінскай мове. Кіеў, «Радзянська школа», 1990.

**У гэтым прадстаўнічым зборніку, аб'ёмам амаль дваццаць улікова-выдавецкіх аркушаў, змешчаны як лепшыя ўзоры фальклору, так і вершы, апавяданні савецкіх і замежных паэтаў і празаікаў, што прывіваюць дзецям любоў да працы, услаўляюць чалавека-стваральніка.**

**Сярод шматлікіх публікацый вядомыя беларускія казкі «Пшанічны каласок». «Лёгкі хлеб», а таксама апавяданне Уладзіміра Ліпскага «Марынчына казка».**




І. МУРАВЕЙКА. Прынёс з вайны. Франтавыя запісы. Расказы пра аднапалчан. Апавяданні. Вершы. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск. «Юнацтва», 1991.

**Назва гэтай кнігі вельмі дакладная. Сапраўды, на старонках яе тое, што нарадзілася ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у час якой Іван Муравейка быў салдатам, камандзірам мінамётнага ўзвода, камсоргам палка, а пасля карэспандэнтам дывізіённай газеты. Да ўсяго яшчэ пісаў вершы. Пад Смаленскам і ў Падмаскоўі, у шпіталі на Алтаі і пад Сталінградам. Радкі, што ішлі з глыбіні душы, з самога сэрца нараджаліся ў яго на Вісле і Одэры.**

**Гэтыя творы, як слушна заўважае ў прадмове Уладзімір Паўлаў, «з прысмакам пораху» і хоць яны доўга чакалі свайго шляху да чытача, «з-за гэтага, аднак, першародства матэрыялу не паблякла, бо эмацыянальнае ўздзеянне сабранага ў ёй (кнізе) вялікае». Дадамо — і выхаваўчае таксама. Асабліва цяпер, калі адбываецца пераацэнка мінулага і адначасова нельга забываць — перажытае ў барацьбе з фашызмам не мае права на забыццё.**

# ЧАРГОВЫ. ЗВЫКЛЫ. НЕАБХОДНЫ?

## Пра «Дзень паэзіі–1990»

Напачатку маленькі экскурс у вытокі. Пачыналася серыя ў часы так званай адлігі, калі маскоўскія стадыёны збіралі тысячы людзей на паэтычныя святы. На Беларусі падобнага не было і быць не магло, аднак прыліўная хваля дайшла і сюды: паэты актывізаваліся, чытацкая эліта, паспяваючы за модай, палічыла сваім абавязкам далучыцца да ўсеагульнага захаплення.

Але няма вечнага пад месяцам. Хваля, патрымаўшыся колькі часу, пайшла на спад, паступова пачаў аціхаць і гучны поспех куміраў. Сёння, праз дваццаць гадоў, «Дні паэзіі», як усесаюзныя, так і нашы,— гэта святло даўно патухшай зоркі. А калі не гаварыць прыгожа, то перад намі тыповы прыклад інерцыйнасці, кансерватыўнасці выдавецкай практыкі. Выдаўцоў зразумець можна: як ты раптам возьмеш і адменіш тое, што па сутнасці стала традыцыяй?

Зірнём, аднак жа, праўдзе ў вочы: зараз «Дня паэзіі» чакаюць выключна паэты. Прыемна пагартаць на добрай паперы аддрукаваную кнігу, пабачыць у ёй сярод іншых сваё прозвішча. Тым не менш, з кожным выпускам усё меней становіцца слынных паэтычных імён. Зборнік драбнее, робіцца выданнем ці то для маладых (чаму б гэта, дарэчы, не ўзаконіць?), ці то для паўпрафесіяналаў і аматараў.

...Развагі развагамі, а чарговы «Дзень паэзіі-1990» выйшаў і паступіў у продаж. Яго складальнікі, мабыць, прытрымліваліся прымаўкі «кожнай сястрыцы па завушніцы», таму стракатасць аўтарскага складу незвычайная. З аднаго боку, гэта добра — шырокі абсяг, дэмакратычнасць, з другога — відавочныя перапады па ўзроўні і стылях, тэматычны разнабой, выпадковасць многіх, хай сабе і адзінкавых, публікацый. Нездарма лічыцца, што недахопы — працяг нашых вартасцяў...

Не да канца вытрыманы ў зборніку прынцып навізны, першаснасці. Асобныя з нібыта новых і недрукаваных вершаў сустракаліся мне ў «ЛіМе», «Полымі», «Маладосці». Даўно парушана і ўмова аддаваць у гадавік лепшае. Хтосьці ўсё вартае паспявае змясціць у іншых выданнях, хтосьці выбірае лепшае з благога, каб толькі быць прадстаўленым.

Калі б у мяне спыталі, ці можна коратка сфармуляваць асноўны лейтматыў сённяшняга «Дня паэзіі», я сказала б — уваскрэсенне душы. Так ці інакш названая тэма праходзіць у творах С. Панізніка і Р. Баравіковай, В. Гардзея і М. Пракаповіча, У. Марука і Х. Лялько, (дэбют у новым жанры?), А. Канапелькі і Я. Гарадніцкага, М. Башлакова і У. Сцяпана, М. Скоблы і С. Сокалава-Воюша. Туга па страчаным, адчуванне непаўнаты, абдзеленасці быцця, прага гармоніі, якой не стала ні ў душы, ні ў свеце,— вось гама пачуццяў, характэрная для вершаў названых і іншых аўтараў.

Парадавала сталасцю думкі, вынашанасцю радка Л. Рублеўская. З уласцівым ёй драматызмам піша паэтка пра нерэалізаваныя сілы народа:

**Нашы волаты спяць**
**пад сцяжынамі нашых**
**турботаў.**
**Дробны тупат наверсе**
**не можа парушыць іх сон.**
**Як заснулі яны,**
**не знайшоўшы па сілах**
**работы,**
**Так і спяць, хоць работы**
**становіцца болей штодзён.**

Бадай, я нанова адкрыла для сябе Х. Жычку з кароткімі, на кантрастах заснаванымі верлібрамі, і У. Марука з яго самавітасць набіраючым словам. Вершы Л. Дайнекі прымушаюць задумацца, Г. Дубянецкай — вабяць чысцінёй і паўтонамі. А вось Л. Дранько-Майсюк і У. Глобус расчаравалі. Першы тым, што выдаў за вершы трыладныя эсэ, якія ўвогуле яму ўдаюцца, а другі— нейкай невытлумачальнай упартасцю ў канструяванні трохрадкоўяў (на гэты раз яны ідуць без назвы «хайку»). У Р. Барадуліна таксама трохрадкоўі, толькі без штучнасці і на трывалым грунце перажытага. Вось адзін з «трыпутнікаў» (вызначэнне аўтара):

**Як назваць яго, Лёсам ці Богам,**
**Дзякуй, што ашчаслівіў**
**астрогам,**
**Дзе ў няволі нам вольна**
**нарэшце.**

Мае рацыю Л. Дранько-Майсюк, калі піша: «лішняе слова— страшней, чым лішні келіх». Лішнімі бываюць словы або тады, калі творцу проста няма чаго сказаць, або ў выпадку, калі ён абраў неадпаведны здольнасцям жанр. На мой погляд, больш пасавала б пісаць прозу Я. Міклашэўскаму і У. Ракаву. Цяжка назваць удалай публікацыю Э. Скобелева, зашмат ілюстрацыйнасці ў

# «І ТАДЫ БУДЗЕМ ПРЫГОЖЫМІ І СВЕТЛЫМІ...»

Герой кнігі Васіля Шырко — дзівак, фантазёр, жыццялюб дзед Манюкін, ён жа Ачмуровіч, Мюнхгаўзен, Абуйлапцінскі або проста Дзед абуй у лапці. «Абуваць у лапці» дасканала ўмее дзед, ён адмысловы казачнік і фантазёр. «Ілжэ не падсяваючы», — піша пра яго аўтар. Шырока выкарыстаны ў казках гіпербала, гратэск, парадокс; нават у дарослых дух займае ад смелага спалучэння рэальнага і выдумкі, а што ўжо гаварыць пра дзяцей? Возьме дзед Манюкін у рукі «чарадзейнае крэсіва», стукне камень аб камень, ...пыхне люлька» і пачынае расказваць пра тое, як на шчупаку ехаў, як ледзьве ў чэраве сома-душагуба не апынуўся, як чорта вакол пальца абвёў, у логава бандытаў трапіў... І ніколі не здагадаешся пра далейшы ход падзей, таму што аўтар умее заінтрыгаваць чытачоў, прыхаваць і не адразу расказаць самае незвычайнае. «Слухай» — кажа дзед Манюкін,— самае цікавае наперадзе»... І слухаеш, слоўка баішся прапусціць. Прыгожа, складна гаворыць Манюкін, удумліва, з густам і любоўю слова да слова падбірае, таму лагодзяць яны душу мілагучнасцю, цеплынёй. «Саколікі», «жэўжыкі», «верабейчыкі», «верабейчыкі-казельчыкі» — так ласкава звяртаецца ён да дзяцей. «Ці бачылі вы, жэўжыкі, сапраўднае балота? На Ніўках, кажаце? Хе-хе, хіба ж гэта балота? Звычайная лужына. І за рэчкай не балота. Тузін кусцікаў і гэтулькі ж купін. Ды і жаб паўсотні ці набярэцца, добраму буслу на раз паснедаць»...

У вобразе дзеда Манюкіна шмат агульнага з вядомымі героямі народных казак. Ён увасабляе лепшыя рысы народа: душэўную шчодрасць, дабрыню, спагадлівасць, гатоўнасць прыйсці на дапамогу таму, хто трапіў у бяду, чалавечую годнасць, сумленнасць. Яго думкі аб жыцці, розных падзеях, людзях, як і належыць у казцы, выказаны ў двух асноўных параметрах: прымаю — не прымаю, добра — дрэнна. Калі што прымае Манюкін, дык ад душы, калі не — дык не шкадуе знішчальных слоў: «Вельмі ж, дзеткі, не люблю я махляроў. Глядзіць такі на цябе, як варона, а хітры, як чорт. Хоць і мёд цячэ з языка, ліпне да сэрца, а тым часам у кішэню паглядае. Ён ашукае цябе і грошы палічыць. Ведама, нарадзіўся, калі сумленне прадавалі».

Прываблiваюць дабрыня, бескарыслівасць Манюкіна. Не падумаўшы нават пра небяспеку, кідаецца ён ратаваць чалавека. Дапамагае галоднаму мядзведзю, а як клапоціцца ён пра вучоную мядзведзіцу: «Сам галодны лягу, а мядзведзіцу пакармлю». Дзякуючы Манюкіну, зачараваны чарнакніжнікам чалавек пазбаўляецца злых чараў... Робіць усё гэта дзед ад сэрца, не чакаючы ўзнагароды. Але калі ўсё ж аддзячаць яго, дык абавязкова падзеліцца з іншымі. «Навошта мне аднаму такое багацце?» — кажа ён, калі становіцца ўладаром казачна багатага скарба. І дзеліць з людзьмі і золата, і чарадзейную хвойку. Пакладзеш ад яе «трэсачку ці іголачку ў пусты вулей, і адразу туды рой прыляціць»... Калі ў зямлю кінеш, «родзіць зямля, як чароўная».

Пры ўсім падабенстве з героямі народных казак, у адрозненне ад іх дзед Манюкін мае канкрэтную біяграфію, прымацаваную да пэўнага часу. Вядома, напрыклад, што ён — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, за мужнасць узнагароджаны ордэнамі і медалямі. У мірны час гэта сумленны працаўнік. Гэтыя і іншыя факты рэальнай біяграфіі ўключаюцца аўтарам у казачную структуру кнігі з майстэрствам, з усведамленнем таго, што казка не церпіць грубага ўмяшання, яе вельмі лёгка разбурыць.

Народны каларыт казак узмацняецца ўвядзеннем традыцыйных у фальклоры вобразаў розных нячысцікаў — чарцей, пярэваратняў, люцыпараў. Прыгадваецца, як рэзка і бяздарна крытыкаваўся Янка Маўр толькі за тое, што ў аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры» яе герой прыгадвае, як тлумачыла яму навакольны свет бабуля: «За печкай жыве дамавік, у лесе — лесавік, у вадзе — вадзянік, а пад зямлёй — чэрці». «Чаму могуць навучыць дзяцей такія кнігі?» — такую назву мела рэцэнзія. Пасля яе праца над аповесцю была надоўга спынена і засталася незавершанай...

Васіль Шырко не пабаяўся «крыміналу». Захоўваючы пачуццё меры, ён пусціў у сваю кніжку і ведзьмакоў, і пярэваратняў, папярэдзіўшы пры гэтым дзяцей, што цяпер гэтых істот засталося зусім мала. «Яно і зразумела, паначаплялі цяперака дратоў, антэны развесілі, электрычка ноччу на слупах гарыць, вось і баяцца нячысцікі падступіцца: смальне токам, чаго добрага, дык адны ножкі ды рожкі застануцца»... Нехта трапна сказаў, што гумар — не мастацкі прыём, а спосаб мыслення. Яно сапраўды так! Гумар — адметная асаблівасць стылю казак Васіля Шырко, звязаная з асаблівасцямі характару, светабачання героя кнігі і яе аўтара — чалавека, моцна звязанага з роднымі карэннямі, з народнымі звычаямі, уяўленнямі і традыцыямі. Яму падуладна роднае слова, яго фарбы і адценні, ён валодае законамі казачнага жанру, таленавіта карыстаецца фальклорнымі сродкамі, таму не збіваецца з абранага шляху: літаральна на нашых вачах творыць казкі. Удакладнім: літаратурныя казкі, бо аўтарскі пачатак у кнізе «Дзед Манюкін не салжэ» вызначальны. Гэта выяўляецца ў тонкай шліфоўцы дэталяў, у арыгінальных сюжэтах, у цэласнасці аўтарскай гуманістычнай канцэпцыі, адметнасці яго мастацкай індывідуальнасці. Натуральна і лёгка ўключаюцца ў казкі літаратурныя факты, імёны і вобразы. Напрыклад, дзецям добра вядомы дзед Міхед, герой любімай імі паэмы А. Астрэйкі «Прыгоды дзеда Міхеда». Аказваецца, што разам са славутым Міхедам партызаніў дзед Манюкін, які з гонарам гаворыць: «У самога дзеда Міхеда спытайце, хто смялей ад яго і мяне быў у партызанскім атрадзе. Шкада, няма ў жывых друга найфайнейшага, а то ён паведаў бы»... Як кажуць, хочаце верце, хочаце не...

Нельга не ўсміхнуцца, аддаўшы належнае аўтару, калі яго Манюкін пасля ўдалай рыбалкі («Выцягнуў плотку з калодку, язя з парася, шчупака... ну, няхай не з быка, але з добрае свінчо»), узваліўшы на плечы вялізны мех з рыбай, ідзе ў добрым настроі і падпявае шырока вядомую прыпеўку з камедыі Купалы: «Танцавала рыбка з ракам»... Далей, як у «Паўлінцы», толькі з адпаведнымі фанетычнымі карэктывамі, бо ў Купалавай п'есе гэтую прыпеўку, ведаем, спявае шляхціц Быкоўскі.

Знайшлося ў кнізе «Дзед Манюкін не салжэ» месца і вядомаму «свінтусу-грандыёзусу» Крапівы. Толькі тут гэта не выкапнёвая жывёліна, а вялікі, дужы, рахманы дзік, якога дзед Манюкін і яго жонка бабка Адарка выхадзілі, выкармілі і далі мудроную мянушку.

Якіх толькі гісторый не напрыдумваў Васіль Шырко! Фантазія аўтара невычэрпная. Складаючы казкі, ён сам захоплены гэтым працэсам, гарэзліва, весела гуляе з дзецьмі, вядзе іх шляхамі казачных прыгод. У кнізе шмат прыказак, прымавак, трапных выслоўяў, вядомых і невядомых, пачутых і складзеных самім аўтарам. Іх перачытваеш, стараешся запомніць: «Дым густы — абед пусты», «Сядзіць, як жаба на купіне», «Цягнецца ноччу з Рысава-Барысава з голымі рукамі», «Ён бы рад забрахаць, ды намордік перашкаджае», «Не паспею рукі развесці — знайду такіх, як ты, дзвесце», «Закруціць, змеле, як у жорнах», «Гэты адным стрэлам сем качак заб'е» і інш. Нямала ў казках каларытных слоў, звязаных з асаблівасцямі беларускага побыту, звычаяў, страў. Успомнім хоць тую цыбульку (вянкоў дзесяць), што вісіць у дзеда пад бэлькаю, альбо куфар, што стаіць у дзедавай хаце, калаўрот, які «мірна круціцца, нітка цягнецца»...

Васіль Шырко. «Дзед Манюкін не салжэ». Казкі. Мн., «Юнацтва», 1991.

Васіль ЖУКОВІЧ



## На сяўбу!

Беларусы, сеяць будзем,
Дбайна зерне варушыць.
Мы павінны жыць як людзі,
А не жыць як набяжыць.

Беларусы, будзем сеяць —
Мы рупліва будзем жаць.
Сэрцы любяць, рукі ўмеюць...
Будзем долю набліжаць.

Беларусы, сеяць будзем!
Поле памяці ляжыць.
Поле памяці абудзім —
Мы як людзі будзем жыць.

## Доля Новіка-Пяюна

Ён перажыў рэжымы катаў;
дарыў заходні кат яму
жалезныя няволі краты,
а ўсходні — «волю»: Калыму.

Так забівалі спадзяванні,
так распіналі на крыжы...
Ды засталося з ім каханне
да Беларусі, тым і жыў.

Славуты род яго — шматлікі,
хапіла ў сэрцы месца ўсім...
Ёсць у яго радні вялікай
Францішак,
Костусь
і Максім.

Калі ж туга душу праймае,
яго суцешыць ёсць каму:
са стужкі Данчык праспявае
пяшчотна «Зорачкі...» яму.

## Трывога

*Трыпціх*

### *1. Замест матчынае калыханкі*

Любая мая дзяўчынка,
светлая расінка,
чыстая мая слязінка,
родная крывінка,
донечка мая, дачушка,
ластавачка-шчабятушка!
Што ж ты ніяк не заснеш!
Калыханкі чакаеш!
А мне не пяецца:
у горле — камяк.
Я з табой размаўляю моўчкі.
Ты яшчэ не ведаеш, мая кветачка,
кволая мая раслінка,
страшных паняццяў «зона» і «радыяцыя».
Не ведаеш ты, як мне трывожна,
што ў цябе ненатуральна бледны тварык
і недзіцячыя сумныя вочы,
і як мне балюча
ад няведання і бездапаможнасці...
Штó, як з матчыных рук
ты прымаеш атруту запаволенага
дзеяння
ў выглядзе дзіцячага харчавання!
Што мы ядзім і п'ем!
І чым дыхаем мы!
І хто нам скажа,
ці можам радавацца
дожджыку і азону,
ветру і снегападу!
Хто адрозніць і хто аддзеліць
чыстае паветра ад смертаноснага,
жывую ваду ад мёртвай!
Хто супыніць распаўзанне і рассяленне
радыенуклідаў нябачных!..
Спі, мая донейка,—
зайшло даўно сонейка,—
увайдзі ў сон, святлейшы за яву,
каб суняўся вецер думак маіх
трывожных,
каб я патушыла на ноч
вогнішча цяжкіх пачуццяў.
Спі, мая дочанька,
наперадзе ночанька,
за ночкаю — ранак.
Засынаць вучыся
без калыханак.

### *2. Заўтрашнія нявесты*

Пад Нароўляю, Менскам, Бярэсцем,
як чароўныя краскі вясны,
падрастаюць нявесты чыесьці,
расцвітаюць пад сонцам яны.

У цянёчку танюткіх матэрый
наліваюцца гронкі грудзей...
Адступіцеся, цэзій і цэрый,
не забіце найсветлых надзей!

Што на сэрцы ў нявест Беларусі!
Грозны джын атруціў іх зямлю.
Уратуй жа, ўсявышні Ісусе,
наша заўтра, цябе я малю.

### *3. Хто ўратуе?*

Божа, Божа! Ты за што караеш
чорнай быллю нас каторы год!
Дзе зямля з вадою памірае,—
як жа акрыяе там народ!

Дзе ты, Божа, дзе ты, ўсемагутны!
Бачыш ты, што атам нарабіў!

Што, калі над краем шматпакутным
і цябе дастаў ён і забіў!

Чым жа ты, ўсявышні, быў заняты,
што такую дапусціў бяду!
Атам, атам, сатана праклятыі!
Хто зямлю ўратуе і ваду,
верне смех дзіцячы ў нашы хаты!
Ці знайду адказ я, ці знайду!

●

Ты ў храме, бо ён табе наканаваны.
Ды храм той пакуль што табой
неспазнаны.

Ён гожы, высокі, ён велічны самы,
святлейшы за ўсе рукатворныя храмы.

Куды ты ні пойдзеш — не выйдзеш з яго
ты,
няхай без замкоў дзверы тут і вароты.

Ты ў цэнтры з любой сваёй сцежкай
зямною.
І купал заўжды над тваёй галавою.



Фота А. КЛЕШЧУКА

Славамір АДАМОВІЧ



## Прызнанне

Я ўварваўся на твае вулкі і пляцы свежым ветрам правінцыі, на запляваных прыпынках цалаваў я тваіх самотных жанчын, ішоў на зялёнае толькі святло і... Божа! Як доўга крочыў я тваімі шырокімі праспектамі, шукаючы сябе і сяброў, сустракаючы ворагаў і прыдуркаў. Скрогат заводаў тваіх пакрываў я голасам собскім, песняй і плачам.

О горад мой! Гэта я адкрыў тваю Кальварыю, Жоўтую цэркаўку на Нямізе і зялёную Лошыцу. Ты, сучасны і старажытны, рабіў мяне Чалавекам, вяртаў мне Памяць, гартаваў мой Дух.

Помню я: ты хацеў праглынуць мяне, прышлага, высмактаць мае сілы. Але ты пацярпеў фіяска, горад. І я дарую табе тваю жорсткасць. Вось мая рука на сяброўства. У яе жылах цячэ кроў беларуса, успоенага вольніцай на прасторах між Будславам і Крывічамі, між Маладзечнам і Полацкам, між Зямлёй і Сусветам...

Ты — горад маёй нацыі. Слухай мяне: я прызнаюся табе ў любові. Я веру ў тваё адраджэнне.

Люблю цябе, Менск.

●

Мая Жанчына
ўсміхаецца мне,
катуючы маё сэрца,

# Каб толькі не гераічная ода...

Генрых Бёль

**Рыхтуючы кнігу прозы нямецкага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Генрыха Бёля (1916—1985), якая павінна выйсці налета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», я звярнуў увагу на невялікія аўтабіяграфічныя нататкі пад назвай «Каб толькі не гераічная ода...» і не ўтрымаўся, каб не перакласці іх. Паспрабую тут растлумачыць, чаму.**

**У нашай публіцыстыцы не раз ужо закраналася пытанне, чаму ўзровень жыцця ў краінах, што пацярпелі паражэнне ў другой сусветнай вайне — Японіі і Нямеччыне, у прыватнасці, — сёння набагата вышэйшы, чым у нашай краіне-пераможцы. Сапраўды, немцы ды японцы не растрачвалі сваіх сіл на задавальненне імперскіх амбіцый, на фінансаванне сусветнае рэвалюцыі, на барацьбу з «бязроднымі касмапалітамі», «нацыяналістамі» і іншымі «ворагамі самага перадавога ладу». Ды й не надта яны імкнуліся называць свой лад самым перадавым у свеце. Яны проста працавалі, ведаючы, што ў іх дзяржавах на проста «хто працуе, той есць», але той, хто працуе, той сам можа па-людску абладзіць сваё жыццё. Якраз пра гэта — малавядомы ў нас твор выдатнага нямецкага пісьменніка-гуманіста.**

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

КАЛІ я спрабую расказаць, чым мы займаліся калі не на Каляды, дык у апошнія месяцы 1949 года, мне робіцца боязна з тае прычыны, што ўсё гэта можа здавацца камусьці такім, якім яно ў сапраўднасці не было,—выключна гераічным. Гэтая шмат разоў падкрэсленая «прага адбудовы», якасць, якую шырока рэкламуюць перад новым пакаленнем, альбо нават «выдатныя дасягненні ў адбудове»— жахлівы ламбард, які мусіць трымаць на сваіх плячах менавіта гэтае новае пакаленне і на якім так ахвотна (і з такімі высокімі працэнтамі) грунтуюць свае разлікі палітычныя дзеячы; а ўсё гэта было не больш, чым жаданне ператварыць простую барацьбу за выжыванне ў жыццё; у кагосьці гэта атрымлівалася з большым, у кагосьці — з меншым поспехам. Я ўпэўнены, што гэтае новае пакаленне, якое ўвесь час мусіць сутыкацца з вялізнымі дасягненнямі сваіх бацькоў і дзядоў, здолела б пасля аналагічнай па сваіх выніках катастрофы «дасягнуць» гэтулькі сама. Часам замежныя сябры з нейтральных краін пыталіся ў мяне з вялікай доляю захаплення:

— Як вы ўсё гэта вытрывалі?

І я заўсёды адказваў:

— Гэтаксама, як бы вытрывалі і вы.

Гэта трэба мець на ўвазе, калі я спрабую расказваць, і месцамі мой аповяд гучыць, нібы казка. І я не надта ахвотна наважваюся выходзіць на галалёд гэткіх успамінаў. Я заўсёды — таксама і ў дачыненні да сябе самога — з недаверам ставіўся да гэтых піруэтаў, тыпу «l'art pour l'art»*: «Ага, так яно было...» — Ці напраўду яно было так?

Галалёд гэта якраз мая тэма: лёд у тую зіму 1945-46 года амаль што ніколі не раставаў у пакоі, які пазней павінен быў зрабіцца кухняй. І трэба было рабіць сякія-такія фокусы, каб згатаваць суп.

Мы пачалі з разбуранага дома на Шылерштрасэ ў кёльнскім прадмесці Баенталь — спачатку як спецыялісты па захопе дамоў, якія пасля сталі спецыялістамі па захопе з наступным іх рамонтам (варта дадаць: такі захоп быў у тыя часы законны, і наша кватэра таксама была законна захопленая — і цюцю!). Цікава было б даведацца, колькі жыхароў Кёльна пачыналі ў той час як захопнікі дамоў. Тады існаваў дзень унясення платы, пасля якога ўсе памяшканні, у якіх ніхто не жыў, дазвалялася займаць.

Варта дадаць яшчэ, што за захоп з наступным рамонтам нам плацілі. Плата за гадзіну працы (павышаны тарыф дапаможных рабочых) — адна **тагачасная** марка: калі пералічыць на сапраўдную, рэальную вартасць, гэта была сёмая частка адной цыгарэты. Паводле вельмі прыблізных падлікаў, утрыманне дома павінна каштаваць цяперашняму ўладальніку — Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі — прыкладна пяцьдзесят тысяч марак; **сёння** дом каштуе ў дзесяць разоў больш, паводле цвёрдага курсу **сённяшняй маркі.** Які камп'ютэр можа падлічыць, якое тут адбылося памнажэнне прыбытку, калі марку, за якую мож-

* l'art pour l'art (французск.) — мастацтва дзеля мастацтва.

а слёзы й просьбы мае
яе злуюць,
а вачыма яна пасміхаецца,
а рукамі гэткімі зграбнымі,
смуглявымі, далікатнымі й гатовымі
для пацалункаў — рукамі гэтымі
яна заціскае мой прагны да крыку рот.
Мая Жанчына — сымболь і паходня,
разлітая скрозь як святло й цемра —
дух, які вядзе мяне па жыцці,
і калі вы здолееце адабраць
у мяне маю Жанчыну — вы
заб'яце Волю,
прагненне Красы —
вы заб'яце мяне, адзінага для яе
Мужчыну.

## Малітоўна

**Не прыйду да цябе больш. Бачыць не буду. Сыйду з воч тваіх. Пракляну-закляну. Знелюблю. Зненавіджу.**

**А ты ў снах маіх пад раніцу пастукаеш ля весніц сэрца, каханнем сцятага. І адчыніцца табе — зойдзеш, дзёрзкая. І сон не сон — на зарокі забудуся. Абачнуся — да рук тваіх пабягу, як цюцька... Бо кахаю!**

●

І вось я малады,
і мне крыху за дваццаць,
і, крэслячы сляды,
мне лёгка не стамляцца.
Яшчэ я не прывык
да белае сарочкі —
увесь худы як смык,
збягаю з дому ўпрочкі.
На крушнях і ў стагах
начую шэрым зайцам
і заядаю страх
ажынай і акрайцам,
што мне дала Жанчына
ў руку на развітанне;
і вось прыйшло яно,
сапраўднае каханне.
І пераплёты кніг
яшчэ рыхтуе кніжнік,
і апантаны Грыг
сваіх здзіўляе бліжніх.
Далёка, па той бок
начнога далягляду
я чую німфы крок
і першага ападу
у садзе залатым
пок-пок, пок-пок, пок-пок.
І атачае змрок
асеннія прысады,
і трызніцца здалёк
прамаці юнай Лады.
Рулады простых фраз
ліюцца па Эдэме.
Я профіль і анфас
малюю не па тэме.
Кантамінацый пыл
і золата кантракту,
свяшчэнны жоўты Ніл
і таямніца пакту
між Небам і Зямлёй —
мне гэта ўсё знаёма...

## Дачка

Дзесьці ходзяць твае ножачкі,
Па зямлі абцасік стукае.
На травы зялёнай ножычкі
Ты іртом маленькім хукаеш.

У касе тваёй істужачка —
Белы колер і чырвоненькі.
І сама ты нібы ружачка,
А ў руцэ тваёй балёнікі.

І бяжыш ты за прысадамі,
Каля дзедаўскага хутара,
Між Вялікднем і Калядамі,
Як па сэрцы маім сутарга.

на было купіць 1/7 цыгарэты, перавесці ў марку, кошт якой адпавядае кошту сямі цыгарэт? Як з сямі з паловай тысяч робяцца тры з паловай мільёны цыгарэт? Не будзем тут казаць пра разлікі з малочніцамі хлебам, малаком, гарбатаю. О, нашыя разумныя малочніцы, трэба было б калі-небудзь узяць вас у Атаву. Ва ўсякім разе менавіта гэтак, з дапамогай дрэннай маркі, ствараліся каштоўнасці, якія перажываюць валютныя рэформы і ўвесь час павышаюць сваю вартасць — ужо ў пераліку на добрыя маркі.

Варта дадаць, што мы атрымлівалі таксама маркі на харчы і нават дадатковыя нормы для рабочых, занятых на цяжкай працы, — хоць мы цяпер не рабілі надта цяжкай працы; і гэтыя маркі спрыялі памнажэнню прыбыткаў. Ах, мілая малочніца, хто гэта навучыў цябе, што марка гэта ёсць марка?

Да будаўнічых матэрыялаў уладальнік дома не дадаваў абсалютна і літаральна **нічога.** Мы самі павінны былі ўсё даставаць — гэта значыць, красці. Хіба не патрэбны быў нам дах над галавой? І мы мелі зрабіць сабе гэты дах. Хачу яшчэ дадаць, што паняцце ўласнасці не стала ўспрымацца намі больш вытанчана ў выніку перажытай вайны і яе бамбардзіровак. А згрызот сумлення мы не адчувалі: пад іх не было пажыўнай глебы, і для «фрынесавання», якое зрабілася славутым, нам не патрэбна было кардыналавага блаславення. Гэта магло натхніць нявінныя па-ранейшаму душы, але я часам гэтак фрывольна пытаюся ў сябе, ці гэта не сам Фрынгс аддаў на разбор дрывотні фірмы «Вэрган»? Дроў, рэчы, у руінах было багата, і, **апроч таго,** варта яшчэ дадаць, што цяслярня майго брата, які быў яе ўладальнікам і кіраўніком, амаль не працавала.

Ну, дык вось: галалёд быў на падлозе ў нашай кухні. Зіма была суровая, і мы спалі звычайна па пяць чалавек разам — з намі таксама мой сямідзесяціпяцігадовы бацька, якому надакучыла сельскае жыццё; раз-пораз мы спалі і па сем чалавек у будучай спальні на ляжанках, змайстраваных з крадзеных дзвярэй і жэрдак. Памыцца ўранку таксама не надта атрымлівалася: мы мусілі браць ваду даволі далёка — з водазаборнага крана (здаецца, недзе на Баентальскім Кальцы); галалёд на кухні быў вынікам снегападаў і перыядычных дажджоў; і ўсё ж вада адыграла важную ролю, калі мы рабілі сваю першую работу — а яна была вартая апавядання Кафкі: падвал з палівам быў затоплены, і мы вычэрпвалі з яго ваду бляшанкамі, вылівалі чарнаватую вадкасць у каналізацыю пральні, што месцілася побач у падвальным памяшканні — аж пакуль мы не ўбачылі, што вада цякла назад у наш падвал; у выніку цяжка зразумелых памылак пры праектаванні абсталявання яе паступленне таксама павінна была рэгуляваць электрычная помпа, якая адводзіла ваду непасрэдна ў канал. Дзе было яе ўзяць, і хто, калі б мы яе ўсё-такі набылі, здолеў бы яе ўстанавіць? Так мы пакінулі чарнаватую ваду самім сабе ды яшчэ пацукам.

Наступная, паводле сваёй важнасці, работа — зрабіць дах шчыльным. Якім чынам? Тут прыдаўся асфальт ад тратуара. Мы плавілі яго ў старой выварцы; дроў навокал у руінах было колькі хочаш; атрыманым расплавам мы залілі ўвесь папярэдне збіты цвікамі дах; дзе мы бралі цвікі? — Там, дзе і ўсё астатняе: у руінах; з усіх дошак і абломкаў мы рупліва павыцягвалі цвікі, павыроўнівалі іх — мы, багатыя на выдумку «захопнікі-рамонтнікі». Мы не саромеліся таксама ўладкоўваць сваё матэрыяльнае забеспячэнне з дапамогай асфальту, выламанага з тратуара на Баентальскім Кальцы, і тут высветлілася, што кардынал Фрынгс быў наш найбліжэйшы сусед; калі мы сабраліся былі экспрапрыіраваць асфальт перад біскупавым домам, адзін айцец пробашч ветліва намякнуў нам, што ёсць і іншыя магчымасці набыць неабходны матэрыял. Такіх магчымасцей было досыць, і мы не ўступілі ў канфлікт з архібіскупавымі інстанцыямі.

Не, героямі мы не былі — нават адмоўнымі героямі. Нас апаноўвала стома, амаль апатыя; таксама хваробы і слабасць. Толькі праз два гады, недзе ў тысяча дзевяцьсот сорак сёмым, мы збольшага адчулі ў сабе сілы; тэмпы нашай працы напачатку былі надта марудныя; той, хто кажа наконт «прагі да адбудовы» альбо нават наконт «выдатных дасягненняў у адбудове», мусіць усведамляць, што ў гэтых словах ёсць пэўны здзек: мы жадалі займець дах над галавою і — больш нічога. Нам хацелася займець і вокны, але шкла проста не было, і таму аконныя праймішчы проста забіваліся дошкамі.

Харчаванне? Вядома ж, сёе-тое на тыя маркі было, і дадатковыя нормы большалі. Былі чэргі па малако-перагон — прадавец гэтак спрытна завіхаўся з чарпаком: гэта трэба ўмець, каб чарпак ніколі не быў зусім поўны; літр — гэта яшчэ не літр, не, не літр; толькі ружа гэта ёсць ружа, менавіта ружа! А 62,5 грама маргарыну — гэта 62,5 грама; цікава, але заўсёды крыху маргарыну заставалася на нажы ў прадаўца; апроч таго, папера была досыць тоўстая, і яе важылі разам з маргарынам; і цікава, што ніколі з нажа лішку маргарыну нікому не дакладвалі — а гэта было б зусім лагічна, калі зважаць на звычайную недакладнасць вагаў. О вы, тыя грамы масла і маргарыну, што заставаліся на нажы, і яшчэ ты, тоўстая папера... ці не вы сталіся прычынаю тых «выдатных дасягненняў у адбудове»? Дні, тыдні, месяцы прапłываюць у маёй памяці; толькі адну дату я запомніў трывала: на Міколу ў сорак пятым годзе мой швагер Эдуард вярнуўся да нас у Кёльн; у Прагу паехаць ён не мог; пра лёс сваёй сям'і яму нічога (і доўгі час) не было вядома. У Кёльне на цэнтральным вакзале ў яго ўкралі ўсю яго маёмасць — набіты поўна марскі рэчмяшок — і ён пайшоў у даведачнае бюро, каб даведацца пра наш адрас, з пустымі рукамі. О, радасць пры сустрэчы з чалавекам, які вярнуўся дахаты! Ён застаўся жыць з намі, атрымаў спальнае месца на лаве і хутка зрабіўся прыстойным «захопнікам-рамонтнікам». Да таго ж у яго неяк быў ацалеў марскі хранометр, які пазней давялося прадаць на чорным рынку. Ганнамары, працуючы настаўніцай, займалася галоўным чынам тым, што размяркоўвала суп паміж шасцюдзесяццю ці сямідзесяццю вучаніцамі і збольшага наладжвала дысцыпліну сярод гэтых дзяцей руін. Эдзі ды я, мы абодва, нібы галодныя ваўкі, чакалі рэштак супу і яе ўласнай порцыі, якую яна прыносіла з сабой у рондалі, калі, усмерць змучаная, вярталася дахаты; супы бывалі салодкія і тлустыя, тлустыя былі нам больш да смаку. Не, героямі адбудовы мы не былі, і кожны, кожны наш нашчадак пасля падобнай да той катастрофы, пры абставінах, падобных да тых, меў бы тыя самыя **«дасягненні»** — я паўтараю гэта і хачу дадаць: мы пасля катастрофы, непараўнальнай з той, ужо б не здолелі «дасягнуць» анічога.

На Каляды — а можа, гэта было пазней? — нам нечакана пашанцавала: мы яшчэ раз паехалі за горад, дзе ў горнай вёсачцы пасяліліся ў пакойчыку для эвакуіраваных. У пакоі панаваў спецыфічны беспарадак: відавочна, там патаемна забілі жывёліну, бо ніхто не думаў, што мы гэтак хутка яшчэ раз прыедзем туды. У якасці «платы за маўчанне» мы атрымалі добры кавалак мяса, і гэта быў нечаканы, сенсацыйны дадатак да нашага меню, якое звычайна складалася з абстрактнага цытавання рэцэптаў страў; о, я добра памятаю, як Эдзі падрабязна апісваў гатаванне чэшскага і аўстрыйскага печыва — напрыклад, рагулек з ваніллю ці кнэдлікаў са слівовым павідлам — у той час як мы сёрбалі свае нішчымныя супы.

Не ведаю, ці быў тады ў Кёльне **хоць адзін жыхар,** які б **не** краў; кожны мусіў красці хоць бы тое, што называлася «безгаспадарнай маёмасцю». Калі такі жыхар ёсць — трэба яму паставіць помнік, увекавечыць яго подзвіг на пляцы Ранкалі. Што засталося за плячыма ў тых, хто перажыў тыя гады! **Гэта і толькі** гэта будзе цікава нашчадкам і пра гэта ім будзе варта ведаць. Якая карысць з пераліку «гераічных» выпадкаў і дэталяў, з показак пра сваю хітрасць, калі дакладна не зразумець, што паняцце ўласнасці, якое сёння належыць у краіне да самых святых, было практычна знішчаным. І гэтак вось адбывалася дзіўнае «размеркаванне груп», якое нікім не кантралявалася. Я нават не кажу тут пра тых шматлікіх асоб, што мелі шчасце браць удзел у падзеле здабычы са зліквідаваных складоў забеспячэння, вайсковых складоў; аўтамашыны і харчы, гумовыя аўтапакрышкі, тэкстыльныя вырабы... колькі людзей гэтак «гераічна» нажыло сабе маёмасць?

Я, відаць, напісаў зашмат белетрыстыкі пра гэтыя гады, каб Вы маглі давяраць маім спробам напісаць нешта дакументальнае. Не ведаю: можа, аповесці і раманы праўдзівейшыя за тое, што я тут расказваю.

Баюся, што ўсё ж атрымалася гераічная ода, не пра станоўчых, не пра адмоўных, а пра надзвычай стомленых герояў, што майстравалі сабе ў разбураным горадзе нейкі дах над галавой, сплятаў сцены, разбівалі камлыгі руін — захопнікі жытла, захопнікі-рамонтнікі, зусім (тады) законныя. Пэўным чынам — таксама здабывальнікі: сярод іншага ў падвале суседняга дома мы знайшлі напалову спарахнелы, увесь у плямах, асобнік «Песень шыбеніка» Крысціяна Моргенштэрна, і на доўгія гады героі тых вершаў Шлухтэнгунд і Зібэншвайн, а таксама іх шматлікія родзічы зрабіліся нашымі кампаньёнамі за сталом.

Каляды тысяча дзевяцьсот сорак пятага года... я не магу ўзгадаць пра іх што-небудзь больш канкрэтнае. Святочная ёлка? Свечкі? Я проста ўжо не памятаю. Было штосьці такое, што, магчыма, магло «зафіксавацца» — пыл і цішыня. І мне здаецца, што сама лепей будзе, калі я працытую тое, што напісаў пра ўсё гэта шаснаццаць год таму, і сёння лепш не скажу:

«Пыл, тло разбурэння праходзіла ва ўсе шчыліны, асядала на кнігах, у рукапісах, на рызманах, на хлебе, пападала ў суп; пыл і тло былі заручаныя з паветрам, былі аднымі душою і целам; год за годам смяротная пакута супраць усялякага розуму, супраць усялякай надзеі на тое, што, нібы Сізіфу ды Геркулесу, удасца перамагчы гэтую ўсюдыіснасць пылу, які ўздымаў горад такога маштабу, якім быў Кёльн; гэты пыл залепваў павекі і бровы, рыпеў на зубах, наліпаў на нёба, набіваўся ў нос, у раны; з году ў год ішло гэтае змаганне супраць атамізацыі агромністых колькасцей цэменту і камення.

Яшчэ — была цішыня. Яна была такая самая бязмежная, як і пыл; толькі тое, што яна не была суцэльная, прымушала паверыць у яе існаванне і цярпець яе; недзе гэтымі бязмежнымі начамі абвальваліся асобныя камяні або абрынаўся дах; разбурэнне праходзіла паводле законаў адваротнай статыкі з дынамікай структур, у якіх парушаны цэнтр цяжару; відавочна, можна разбурыць і цэнтр статыкі будынка. Часцяком сярод белага дня можна было бачыць, як дах павольна, амаль урачыста пачынаў ссоўвацца долу, рассыпаліся цэментаваныя стыкі, нагадваючы сетку, вочкі якой павялічваюцца — і пачыналі грымець камяні. Разбурэнне горада — гэта не нейкі закончаны працэс, як аперацыя: яно прагрэсіруе, нібы паралюш; паўсюль усё крышыцца, а потым разбураецца, абрынаецца. Гэта незабыўнае відовішча, калі палавінка даху самахоць, без усякага ўздзеяння выбуху альбо іншай гвалтоўнай сілы, правальваецца; у нейкі момант, які немагчыма ні прадбачыць, ні, тым больш, папярэдне вылічыць, гэтае ладна сканструяванае, з верай і радасцю выкананае збудаванне пачынае паддавацца, ідзе з ледзь чутнымі ціканнем і рыпеннем зваротны адлік ад даты свайго ўзнікнення да нічога, да тла — і вось яго ўжо няма».

Сапраўды, пыл і цішыня тут прысутныя, і гэта давала пэўную ўцеху — зрабіць прыдатным пад жыллё разбураны дом; героі-бацькі, што гэтак часта, вінавацячы ды і асуджаючы ўсіх, б'юць кулакамі сябе ў грудзі — грудзі «герояў адбудовы», і надта лёгка забываюцца, колькі радасці было, колькі вынаходлівасці ўжывалася, калі трэба было здабыць матэрыялы і кожны, кожны абед быў перамогаю. Не трэба забываць, што англічане былі прыемнай, амаль непрыкметнай акупацыйнай уладаю.

Не памятаю ўжо, ці то перад, ці то пасля Калядаў, але здарыўся нейкі цуд: мне даслалі — а ўжо ж прайшло больш як паўгода пасля заканчэння вайны — некалькі (колькі — я цяпер ужо не ўспомню) месячных обер-ефрэйтарскіх зарплат! Нейкі сумленны вайсковы бухгалтар, напэўна, здолеў забраць дадому «вайсковую касу» ды адрасы салдат і унтэр-афіцэраў і па справядлівасці падзяліў гэтую (паводле міжнароднага вайсковага права) незаконную здабычу. Гэты нечаканы даход — адзіны, калі не лічыць сарака пяці марак тыднёвай зарплаты «захопніка-рамонтніка» ды настаўніцкага жалавання Ганнамары — хутка апынуўся, як тады і любая выпадковая банкнота, на чорным рынку: былі купленыя хлеб, цыгарэты, колькі лотаў кавы, але досыць пра гэта...

Мы вытрывалі і пачалі жыць.

1980.



Наташа Растова—з. а. БССР Н. КАСТЭНКА.

# НА ТРАЕЦКАЙ ПЛОШЧЫ ГОМАН...

## Адкрыў сезон Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР

Лімавец рушыў да Траецкай гары не ў лепшым настроі. На спектакль, казалі, было прададзена толькі 14 білетаў; адміністрацыя звыкалася з думкай, што людзі занятыя іншымі, чым паход у оперу, клопатамі і калі куды і пойдуць, дык на плошчу, што адкрыццё сезона праваліцца...

Лімавец меў шанц стацца «юбілейным», 15-м гледачом. І каб не засяроджвацца на гэтай малапрыемнай рэчы, прыдумваў для сябе «гумку-жуйку», загадкі-забаўлянкі: навошта на Траецкай гары плошча Парыжскай камуны? калі тэатральны дом пазначаюць нумарам «1», дык да якога будынка на Траецкай гары (ці на Траецкай плошчы) прышпілены нумар «2»?

Загадку наступную падкінула жыццё: што здарылася, няўжо гэта—у нашым тэатры? Лімавец не даў веры: публіка ўтварала чэргі. У гардэроб і да люстэрка. Па піражныя і праграмкі. Запаўняла партэр ды бельэтаж. Радасць прыхарошвала і пасвяжэлыя за лета, і стомленыя твары нашай мінскай інтэлігенцыі, студэнтаў, дзетак...

Крытыкі па-рознаму ставяцца да оперы С. Пракоф'ева «Вайна і мір» і да яе ўвасаблення на беларускай сцэне. Па-рознаму «складвалася жыццё» і канкрэтнага спектакля— увечары 3 верасня. Але ж галоўнае, што жыццё ладзілася, злучаючы аркестр, сцэну, залу гаючымі энергетычнымі токамі.

Опера «Вайна і мір» пастаўлена дырыжорам Г. Праватаравым, рэжысёрам С. Штэйнам, мастакамі Э. Гейдэбрэхтам ды В. Шчарбаковай, хормайстрамі А. Кагадзеевым, Н. Ламановіч, Г. Луцэвіч да 40-годдзя Вялікай Перамогі, што адзначалася ва ўсім свеце. Першы спектакль сёлетняга сезона, з удзелам А. Саўчанкі, Н. Кастэнкі, В. Цішынай, А. Кеды, У. Экнадзіёсава, А. Тузлукова, Н. Галеевай і многіх іншых салістаў, быў прысвечаны 100-годдзю вялікага Пракоф'ева, чый юбілей адзначаецца таксама як сусветная падзея.

Лімавец задумаўся над словамі «вайна і мір», «вайна і свет». Усіхнімі, сусветнымі. Вечнымі. І такімі знамянальнымі сёння...

С. ВЕТКА.

# СПАГАДА, ДАЛІКАТНАСЦЬ, ДАБРЫНЯ



## З мастацкім кіраўніком Рэспубліканскага тэатра юнага гледача Мадэстам АБРАМАВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Жана ЛАШКЕВІЧ

**— Мадэст Мадэставіч, з шэрагу вашых спектакляў (у Кішынёве, Гародні, Мінску) можна прыгадаць няшмат дзіцячых; нядаўна ж вы сталі на чале дзіцячага тэатра...**

— Чаму, вы спытаеце? Жахлівая праява: у «дарослым» тэатры я згубіў гледача. У мяне — пустая зала... Крытыка ставіцца прыязна, калегі віншуюць з поспехам, а зала — пустая! Тэатр — для сябе? Я раптам зразумеў, як мне важны глядач. А я... я ж ніколі нікога не вучыў быць гледачом! Цяпер вы разумееце, чаму я шчыра лічу першымі тэатрамі краіны дзіцячыя тэатры: толькі яны здолеюць вярнуць гледачоў у залы. Толькі яны ў стане падрыхтаваць гледача ды выхаваць яго. Беларускі ТЮГ ніколі не стане падымаць цэны на білеты, ніколі. Нашае мастацтва мусіць быць даступным. Вось калі мы выхаваем патрэбу ў сваім мастацтве, тады цэны на білеты ў «дарослыя» тэатры можна смела падымаць...

**— Калі выхаваеце патрэбу...**

— Перачытваючы класікаў, заўважаю: пішуць пра патрэбу паслухаць музыку, атрымаць асалоду ад жывапісу, ад зносін з прыродаю... Малых вучылі маляваць, слухаць музыку, валодаць музычнымі інструментамі, чытаць... Знакамітыя гувернанткі не насы выцiралі, — выхоўвалі душу... Я, дарослы чалавек, з жахам згадваю школьныя ўрокі спеваў ды малявання. Ці шмат змянілася ў нашай школе? Але ж менавіта праз яе было прынята «запрашаць» гледача ў тюгаўскую залу.

**— Ці не таму паняцце «тэатр» самым прыкрым чынам атаясамілася ў дзяцей са школаю? Спектакль—чарговы ўрок, да якога, дзякуй Богу, рыхтавацца не трэба. Дарэчы, адзін з вашых папярэднікаў на пасадзе мастацкага кіраўніка ТЮГа сцвярджаў, што дзіця ці сучаснага падлетка інакш як трукам, звышздзіўленнем ці, прабачце, якімсьці выдурненнем нельга прымусіць сачыць за дзеяннем...**

— Пачнём з таго, што калі ў спектаклі дзеянне ёсць, дык сачыць за ім будуць. Іншая справа — як гэтае дзеянне выявіць, знейсці, выбудаваць? Вядома, для маленькага гледача хочацца зрабіць маленькі цуд. Сам, да прыкладу, памятаю спектакль, дзе лёталі... гуслі. Не ведаю, як гэтага дамагліся, ды ўражаны й сёння. Але не магу не згадаць, як І. Смактуноўскі на пытанне «Што для вас найбольш каштоўнае ў акцёры?» адказаў: «Жывыя вочы на спакойным твары». А гэтага вельмі цяжка дамагчыся. Дзеянне — гэта зрухі чалавечай душы — перадусім. Па маіх назіраннях, пакуль што ў ТЮГу прынята кульгаць не нагою [illegible] тварам. Ісціну, што і ў дзіцячым тэатры кульгаць трэба [illegible]гою, мушу адстойваць д[illegible]туль.

**— Дзіцячы тэатр нашай краіны — надзіва аднастайны. Сёй-той з ягоных творцаў заклікае вярнуцца да Бранцава, большыня захапляецца Генрыетай Яноўскай і хоча мець спектаклі ў «ейным» стылі, своеасабліва працуюць для дзяцей тэатры лялек. У кожнага — сваё ўяўленне пра дзіцячы тэатр, у некаторых — свая канцэпцыя ягонага развіцця да існавання! Чым можаце пахваліцца вы?**

— Ведаеце, з чым я сутыкнуўся на пачатку свайго мастацкага кіравання? Шмат хто з малых мінчукоў не ведае пра дзіцячы тэатр ва ўласным горадзе... Я мару разбіць сцяну, якая аддзяляе дзяцей ад тэатра. Не дзіцячага ці падлеткавага, проста — Тэатра. Я мушу браць гледача шасцігадовага ды весці яго ад спектакля да спектакля, — менавіта на шасці-васьмігадовых дзяцей мы арыентуем некаторыя з апошніх пастановак. Каб навучыць іх тэатральнай мове, каб яны асвоіліся з тэатральнаю ўмоўнасцю, прызвычаіліся да тэатральнай атмасферы. Я магу зразумець тых самых школьнікаў, якім увесь час навязвалі білеты ў ТЮГ. Мы вырашылі распачаць справу па-новаму. Зрабілі маленькі спектакль на трыццаць хвілін, паездзілі з ім па школах. Падабаецца? Можаце набыць білеты на спектакль у тэатр. Не падабаецца? Што ж... Але наша прапанова — сумленная.

**— Не магу даць веры вушам сваім: няўжо школьнікаў не будуць болей у ТЮГ... заганяць?**

— Не будуць. Мы хочам, каб тэатр наведвалі. Мусілі рэарганізаваць педагагічную частку. Плануем распачаць сапраўдныя сацыялагічныя доследы, бо айчынных распрацовак амаль няма, ніхто з рэжысёраў не ведае, ці ёсць у дзяцей патрэба ў ягоных прапановах, ці дзеці іх проста не разумеюць. Прадумваем кожную драбязу. Вось каляровыя паштоўкі са сцэнамі з нашых спектакляў. Вось партрэты артыстаў ТЮГа ў атачэнні персанажаў, якіх сыгралі ўжо (пакуль дзеці гойсаюць па фае, абавязкова звернуць увагу, а звернуць увагу— запомняць). Пасля некаторых спектакляў будзем знаёміць дзяцей са службамі тэатра. Запросім на сцэну, да прыкладу, мастака-грымёра і няхай ён пераўвасобіць любога хлапчука з залы ў аднаго з герояў спектакля. Задумак шмат, не буду расказваць пра ўсе, але асноўнае вы зразумелі: трэба зрабіць так, каб дзеці пра ТЮГ памяталі як пра свой тэатр.

**— Іншымі словамі, цуд спектакля спадзяецеся падоўжыць?**

— Разбурыць сцяну між дзецьмі і тэатрам — вось уся мая канцэпцыя. Для самых маленькіх на сцэне будуць цуды. Для старэйшых — шмат музыкі, руху, маляўнічасці. Вялікая праграма з твораў класікаў мусіць, нарэшце, апанаваць падмосткі ТЮГа. На маю думку, толькі дабрыня на сцэне, толькі атмасфера спагады ды далікатнасці ўтрымае дзяцей у тэатры, — калі ў ТЮГу пачнуць размаўляць чалавечымі галасамі...

**— На дрэннай мове? Хіба не прафесійная загана — несвабоднае валоданне моваю, на якой працуеш? Ці будзеце вы штосьці прадпрымаць, каб выправіць становішча?**

— Я спачатку доўга не мог зразумець, што ж адбываецца на рэпетыцыях: дзіўныя паўзы-правалы... разгубленыя акцёрскія вочы... Аказваецца, выканаўца шукае слова! Ён забыўся, «как это будет по-белорусски!» Я разумею, што гэта—катастрофа. Што за адзін дзень, за адзін сезон нічога не выправіш (хоць я і прапанаваў свайго роду гульню-навучанне). Ні пра якое двухмоўе не можа ісці гаворка. Я і сам, нарэшце, дачуў мелодыку беларускай мовы. Убачыў, як акцёры націскаюць на слова, а яно... разбураецца. Яно кро[illegible]кае і нетрывушчае. Але зірнём глыбей. Няшмат хто з маіх калегаў ведае, што праз сцэну пад час рэпетыцыі хадзіць няможна, а капялюш за кулісамі трэба здымаць. Не ведаюць, што ў тэатры служаць, слугуюць, — як у арміі ды ў царкве. У нас пакуль што — працуюць, робяць... Але добра сказана: калі тэатр не для надзеі, дык навошта ён?..

# ЧАС НА ПАРАЗУМЕННЕ

## Аўстралійская аповесць на брэсцкай лялечнай сцэне

«Жылі Мышка і Вамбат...» — п'еса ленінградкі Ірыны Паўлычавай па матывах аповесці-казкі Руф Парк «Вамбат з ускудлачанай галавой». Аповесць патрапіла да берасцейскіх лялечнікаў праз Ленінград з Аўстраліі, і цалкам натуральна рэжысёр Алег Жугжда прадставіў гэтае патрапленне праз велізарныя кубы-пасылкі, свайго роду гуманітарную дапамогу. Кубы — не толькі аснова дэкарацый. Акцёры дастануць адтуль... невялічкія размаітыя сумачкі-торбачкі: гэтак фантазія мастачкі Людмілы Панамаровай падказала магчымасць пераўвасаблення звыклых ужытковых рэчаў у... сумкавых жывёл. Са школьнага ранца з'яўляецца ўскудлачаная Вамбатава галава з вушкамі, ножкі і маленькі хвасточак, «пра якія нават і гаварыць не даводзіцца...» Такім самым чынам з іншае сумачкі ўтворыцца Мышка, а лапленая торба зробіцца Стракатым Катом; Уладзімір і Лідзія Зайцавы ды Уладзімір Тэвасян адразу праявяць характары сваіх улюбёнцаў-персанажаў. Да шчырага акцёрскага ўвасаблення, бадай, знойдзецца адна заўвага. Трэба, як той казаў, вызначыцца — што прадстаўляць. Персанажыка з во-ось такім віскатлівым галаском (без шырмы? усе пераўтварэнні ажыццяўляюцца на вачах гледачоў, яны прынялі ўжо правілы гульні), ці нешта больш складанае і цікавае, скажам, сваё стаўленне да персанажаў (але без штучных, тэатральна - наіграных ацэнак), свае дыстанцыі да іх, сваю меру пераўтварэння-гульні, нарэшце, сваю чалавечую «порцыю» крыўдаў на іх ці захапленняў імі... (Бліжэй за ўсіх да такога існавання ў спектаклі наблізілася Лідзія Зайцава.)

Вырашэнне Алега Жугжды падштурхоўвае да выяўлення дзвюх паралельных плыняў дзеяння. Уласна лялечнага, апавядальнага, ды псіхалагічнага, заснаванага на адвечна-чалавечых стасунках. Не трэба баяцца пераўскладніць дзіцячы спектакль,— хоць бы таму, што дарослым побач з дзецьмі таксама будзе цікава, і таму, што разуменню персанажаў і бацькамі, і дзецьмі спрыяюць дасціпныя музычныя рэпрызы Паўла Кандрусевіча. Ягонай кампазітарскай вынаходлівасці, а яна моцна падтрымлівае вынаходлівасць рэжысёрскую, можна шчыра падзівіцца. Адзін прыклад: тупае праз сцэну абаяльны Фермер-недарэка з рудымі вусамі, кожнаму «тупу» адпавядае бязладны акорд духавога гармоніка; раптам Фермер засаромеецца залы і ўласнага няўмельства ды ахвяруе сваю музыку Мышцы. Тая возьмецца вучыць Вамбата, а ён захопіцца — ажно пракаўтне гармонік. Што рабіць? Граць сваім дыханнем! Музычныя нумары «для дыху» са спевамі суправодзяць сцэны паразумення і народзінаў вялікае мары сябрукоў і зарабіць на ровар з чырвонымі коламі.

Ровар прарэкламуе смешны Фермер, якога хутка зменіць майстра-Фатограф, Прадавачка пыласосаў, Гаспадар цырка і нават Ільвіца з таго самага цырку. Увасабленне гэтых герояў належыць Ларысе Мікуліч, якая накшталт «хору» зядзе спектакль, рухаючы яго ад падзеі да падзеі, ад здарэння да здарэння, вызначаючы ці не кожны ягоны эпізод. Прыездам цырка скончыцца першая дзея спектакля, арганічнасць актрысы канчаткова зачаруе аўдыторыю, якая ўдзячна перачакае антракт. Прыгодамі трох прыяцеляў у цырку і ў тэатры працягнецца другая дзея. Але пасля таго, як закрыецца заслона, няможна не пашкадаваць, што вобразу спектакля, ягонага адзінага мастацкага вырашэння спазнаць не выпала; з'явы ніталіся хіба паслядоўнасцю падзей, часткі сцэнічнага афармлення прастойвалі пачатак першай дзеі, запаволены тэмпарытм скраў ладны кавалак сцэнічнага часу, а выканаўцы пакуль больш намагаюцца, як дасягаюць. Мо трэба больш прыдзірліва паставіцца і да літаратурнае асновы?

Праўда, далейшае дасканаленне рупіць рэжысёру, і ён, так бы мовіць, пакінуў на яго прастору ў спектаклі; варта было б адшкадаваць і часу. Як не шкадуе часу маленькая Мышка Лідзіі Зайцавай,— не на грошы для мары з чырвонымі коламі, — для паразумення.

Антаніна ЗАБЛОЦКАЯ.

**ПОЗІРК У МІНУЛАЕ**

# Умелі ж раней працаваць!

## Пра адзін занядбаны помнік

У Нягневіцкім сельсавеце Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці ёсць незвычайная вёска Адампаль. Знаходзіцца яна на месцы былога фальварка, які заснаваў сын славутага дзеяча Рэчы Паспалітай графа Іаахіма Літавора Храбтовіча Адам Храбтовіч. У ходзе рэарганізацыі панскай гаспадаркі па прыкладзе перадавых гаспадарак Англіі ў Адампалі ўпершыню ў Беларусі быў уведзены шматпольны севазварот. Вялікую ролю ў развіцці фальварка Адампаль, перш за ўсё ў значным павелічэнні яго даходнасці, адыграў нямецкі аграном і інжынер з Саксоніі Фердынанд Фішар, які ў другой палове XIX ст. каля 40 гадоў быў галоўным упраўляючым усімі маёнткамі графа Міхаіла Храбтовіча, унука Іаахіма Літавора Храбтовіча і пляменніка Адама Храбтовіча. Менавіта дзякуючы яму Адампаль стаў адной з лепшых гаспадарак Расійскай імперыі. У 1893 годзе ў сувязі з тым, што мужчынская лінія гэтай галіны роду Храбтовічаў вымерла, спецыяльным указам імператара Аляксандра III маёмасць, тытул і прозвішча былі перададзены нашчадкам Храбтовічаў па жаночай лініі Буцяневым: Міхаілу і Канстанціну Апалінаравічам.

Пасля адмены прыгоннага права ў фальварку працавалі наёмныя парабкі, але толькі халастыя, а летам таксама і падзёншчыкі. Парабкі, акрамя поўнага ўтрымання, атрымлівалі яшчэ плату грашыма (да 35 рублёў у год).

У Адампалі земляробства, жывёлагадоўля, а таксама перапрацоўка некаторых відаў сельскагаспадарчай прадукцыі вяліся самымі перадавымі на той час метадамі. Тут існавалі дзве формы севазваротаў: на ўзвышаных месцах — 8-польны, на нізінных — 12-польны. Палі былі меліяраваны дрэнамі ўласнага завода ў Кальчыцах. Вырошчваліся разнастайныя расліны, пераважна лепшых замежных гатункаў. Сеялі авёс, бульбу, буракі, віку, гарох, жыта, канюшыну, пшаніцу, рапс, свірэпіну, цімафееўку, ячмень і інш. Ураджайнасць гэтых культур значна перавышала ўраджайнасць у суседніх гаспадарках: і панскіх, і сялянскіх.

У Адампалі была добра развіта таксама жывёлагадоўля. Для патрэб гаспадаркі разводзіліся валы і коні, якія выкарыстоўваліся як цяглая сіла. Меўся тут і статак дойных кароў, малако ад якіх перапрацоўвалася на сыраварні фальварка Нягневічы ў швейцарскі сыр, што збываўся ў Варшаве. Галоўнай спецыялізацыяй жывёлагадоўлі быў адкорм адпрацаваўшых сваё валоў (каля 300), а таксама свіней англійскай пароды (каля 100) для збыту. Валы адкормліваліся да 90—100 пудоў (1400—1600 кг). Жывёла беспрывязна ўтрымлівалася ў вялікіх цагляных хлявах, да якіх быў праведзены водаправод.

Адампаль быў асноўным цэнтрам перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, якая выраблялася ва ўсіх 6 фальварках маёнтка Шчорсы. У 1878 годзе замест трох бровараў, якія былі ў гэтым маёнтку, па спецыяльным праекце з цэглы ўласнай вытворчасці быў пабудаваны вялікі і дасканалы ў тэхнічных адносінах спіртзавод з паравой машынай. У 1913 годзе 13 рабочых выпрацавалі з бульбы, жыта і ячменю 31500 вёдзер спірту. Брага па спецыяльным трубаправодзе перапампоўвалася ў хлявы, дзе адкормлівалася быдла. У тым жа будынку тады ж быў абсталяваны і млын, што таксама прыводзіўся ў дзеянне паравіком. У 1879 годзе 5 рабочых намалолі 7500 пудоў мукі. Тады ж была пабудавана і цагляная алейня, якая працавала ад таго ж паравіка. У 1884 годзе 5 рабочых вырабілі 930 пудоў рапсавага і льнянога алею.

Акрамя гэтага, паравая машына пры дапамозе каната, які быў вельмі арыгінальна падвешаны на блоках на высокіх цагляных слупах, прыводзіла ў рух вялікую малатарню з арфай замежнай вытворчасці, а таксама некаторыя іншыя гаспадарчыя машыны (яшчэ адзін млын, прэс, кармарэзку, лесапілку і інш.).

Для забеспячэння фальварка вадой ад рэчкі Валоўкі да Адампаля быў праведзены водаправод. З дапамогай усё таго ж паравога рухавіка вада пампавалася ў вялікую студню, што была выкапана побач з будынкам спіртзавода.

У пачатку XX ст. Адампаль уяўляў сабой вялікую сядзібу памерамі каля 12 га, з комплексам цагляных жылых, гаспадарчых і прамысловых будынкаў, з садам, сажалкамі і інш.

Такім чынам, фальварак Адампаль маёнтка Шчорсы Навагрудскага павета Мінскай губерні з'яўляўся выдатным узорам аграпрамысловай вытворчасці і адпаведнай архітэктуры. Аднак бурлівыя падзеі XX ст. нанеслі гэтаму славутаму комплексу непапраўныя страты.

Фальварак спыніў сваю дзейнасць у 1914 годзе, калі германскія войскі акупіравалі гэтую частку Беларусі. У час вайны некалькі пабудоў было спалена адступаючымі рускімі войскамі, а цэглу навакольныя сяляне выкарысталі на свае гаспадарчыя патрэбы.

З пачатку 20-х гадоў фальварак Адампаль стаў дзяржаўнай уласнасцю Польшчы. У ім была арганізавана 2-гадовая школа-інтэрнат па падрыхтоўцы навучэнцаў да паступлення ў настаўніцкую семінарыю.

У пачатку 30-х гадоў у Адампалі быў арганізаваны дзіцячы прытулак, які ў 1944 г. быў рэарганізаваны ў дзіцячы дом, а ў сярэдзіне 60-х—у школу-інтэрнат, а затым—у дапаможную школу-інтэрнат. Цяпер у ім выхоўваецца каля 150 дзяцей.

Я, як былы выхаванец дзіцячага дома «Адампаль» (1947—1955 гг.), а затым і часты сведка ўсіх перамен у вёсцы Адампаль, павінен падкрэсліць, што, на вялікі жаль, мясцовыя ўлады аніяк не звяртаюць увагі на гэты выдатны помнік аграпрамысловай вытворчасці. Усё тут апошнім часам будавалася і руйнавалася толькі з улікам бягучых патрэб. Дзіўна, але гэты помнік апынуўся па-за ўвагай аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць» (Мн., 1986), які падрыхтаваны Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, выдадзены выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі і лічыцца «афіцыйным дакументам, які апісвае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад ахову». На жаль, відавочна, што гэта не зусім так.

Нягледзячы на суровы час, я мяркую, што ў будучым найбольш мэтазгодным было б пераўтварыць вёску Адампаль у буйны турыстычны цэнтр міжнароднага класа. Наяўнасць побач такіх выдатных гістарычных мясцін, як Карэлічы, Любча, Мір, Навагрудак, Нягневічы, Шчорсы і іншыя, прыцягне ў Адампаль тысячы турыстаў.

**М. СПІРЫДОНАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



Спіртзавод і млын.



Склеп для захоўвання спірту (фота 1968 г.; у 1989 — разбураны).

**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА**

## «ПОЛАЦАК», НУМАР ПЯТЫ...




№5 1991

Вось ужо колькі нумароў запар часопіс «Полацак» на сваім развароце дае партрэт каго-небудзь з выдатных дзеячаў нацыянальнага Адраджэння, чые імёны доўга замоўчваліся. У пятым нумары змешчаны партрэт А. Луцкевіча. Даты яго жыцця: «1884 — 1946». І словы, звернутыя да нашчадкаў: «Белы кужаль на ім, тонкая палоска крыві — гэта сцяг паняволенае Беларусі».

Адкрываецца нумар факсіміле верша Р. Барадуліна «Малітва за Беларусь», датаванага 1 студзеня 1991 года.

Пра тое, як у 1922 годзе адбыўся гвалт над мошчамі Ефрасінні і як яны былі вернуты ў гады вайны ў Сафійскі сабор, расказвае У. Арлоў — «Вяртанне святыні». Пра гэта згадваецца і ў сведчанні Ю. Віцьбіча «Аб чым умаўчаў пратаярэй Вайтовіч».

Цікавыя старонкі ўспамінаў (публікуецца пачатак) вядомага беларускага мастака Я. Ціхановіча, які быў зяцем У. Галубка і які па-новаму асэнсоўвае шмат якія падзеі гадоў сталінізму. Лёс газеты «Крыніца» («Беларуская крыніца») прасочвае Л. Мірачыцкі.

Чытач знойдзе і працяг публіцыстычнай аповесці-хронікі ў дыялогах Э. Ялугіна «Свечкі на Дзяды», дакументальнай аповесці С. Белай «Максімава Яраслаўя», штрыхі да творчага партрэта М. Сяднёва «Ніхто з радзімай Беларусі не прачытае маіх дум...», напісаныя Л. Савік (з гэтым артыкулам знаёмы ўжо лімаўскія чытачы), нататку С. Анатольевай «Міжагнёўе» Міхася Кавыля, артыкул Я. Лецкі «Адродзімся з верай», іншыя матэрыялы, у тым ліку падборку «З жыцця эміграцыі».

**А. М.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётр ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК—33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12